*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 32 (820) 22 ЖНІЎНЯ 2007 г.

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



Жыве Беларусь, нібы праўда святая!
Была ты з крыжом і была на крыжы.
Ад Бога табе гэты крыж ратавальны -
Каб праўды трымацца і з вераю жыць:
Як белая ружа - прыгожа і чыста,
Як Белая вежа — стаяць непахісна,
Бярозкаю белай цягнуцца да неба -
Да Божае ласкі, да Божага хлеба.

З чаго гэты хлеб? Ён - з цярпення й любові,
А сіла яго - ад спрадвечнага Слова,
Што кліча людзей на сумленную споведзь,
Каб вартымі былі ахвяры Хрыстовай...
Ахвяры Хрыстовай і матчынай мовы.

Ад Слова стварылася наша жыццё,
А наша Радзіма - ад роднага слова.
Няхай жа гучыць яно гімнам вясновым
Магутнаму Богу і маці з айцом!

Пад сцягам Хрыста беларуская праўда,
Яна — наша вера, яна — наша сіла.
Дык пераможам - і будзе ўлада
Уладай Пагоні, крыжа Еўфрасінні -
На радасць і шчасце любімай Радзімы!

*Мікола Бакас.*

***На здымку:** Пранoвіч Марыя і Руднік Даша з грунвальдскімі мячамі на сядзібе-музеі Анатоля Белага ў Старых Дарогах.*

# 90 гадоў з дня нараджэння Пімена Панчанкі



**ПАНЧАНКА** Пімен Емяльянавіч (23.8.1917, г. Талін — 2.4.1995), бел. паэт. Нар. паэт Беларусі (1973). Ганаровы акадэмік Нац. АН Беларусі (1994). Скончыў пед. курсы ў Бабруйску (1934), Менскі пед. ін-т (1939). У 1933 працаваў рабочым у Бабруйску. З 1934 настаўнічаў на Магілёўшчыне. З 1939 у Чырв. Арміі, удзельнік вызвалення Зах. Беларусі (вер. 1939). У Вял. Айч. вайну спец. карэспандэнт армейскіх і франтавых газет. З 1946 заг. аддзела час. «Вожык», з 1948 заг. аддзела, нам. гал. рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва». З 1953 гал. рэдактар альманаха «Советская Отчизна», з 1958 — час. «Маладосць». У 1966—71 сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкаваўся з 1934. У першых зб-ках «Упэўненасць» (1938), «Вераснёвыя сцягі» (1940) настрой і пачуцці яго пакалення — рамантычна-ўзнёслыя парыванні, летуценні маладосці і кахання, трывога ў прадчуванні нарастаючай пагрозы вайны. У зб-ках «Табе, Беларусь» (1942), «Дарога вайны» (1943), «Далёкія станцыі» (1945) горыч растання з Беларуссю, вера ў яе вызваленне, гераіка нар. змагання вызначаюць унутр. напружанне, палымянасць лірычнага перажывання паэта. Шырока выкарыстоўвае фалькл. вобразы і прыёмы. Вершы ваен. часу («Краіна мая», «Будуць вечна сады расцвітаць...», «Сінія касачы», «Дзеці вайны», «Герой» і інш.) спалучаюць адухоўленыя, чыстыя, светлыя малюнкі жыцця, задушэўныя перажыванні з драм., нярэдка па-баладнаму сціслым і ёмістым паказам ваен. выпрабаванняў. Уражанні ад знаходжання з сав. войскамі ў Іране (1944—45) сабраны ў патрыят. цыкле «Іранскі дзённік» (1944—47). У зб-ках «Гарачыя вятры» (1947), «Вершы» (1948), «Прысяга» (1949), «За шчасце, за мір!» (1950), «Вершы і паэмы» (1952), «Шырокі свет» (1955) тэма мірнай працы, суровая памяць вайны, услаўленне прац. энтузіязму, імкненне да сац. значнасці і дзейснасці паэзіі. Вынік паездак у ЗША і інш. краіны — зб-кі «Кніга вандраванняў і любові» (1959), «Нью-Ёркскія малюнкі» (1960), «Тысячы небасхілаў» (1962), «Чатыры кантыненты» (1964).

Сведчаннем творчай сталасці з'яўляюцца зб-кі «Пры святле маланак» (1966, Дзярж. прэмія Беларусі імя Я. Купалы, 1968), «Снежань» (1972), «Крык сойкі» (1976), «Вячэрні цягнік» (1977), «Дзе начуе жаўранак» (1979, у пер. на рус. мову, Дзярж. прэмія СССР, 1981), «Маўклівая малітва» (1981), «Лясныя воблакі» (1985) і інш., дзе найб. поўна рэалізаваліся магчымасці і выявіліся лепшыя рысы таленту П. З сярэдзіны 1980-х г. яго творчасць вылучаецца публіцыст. адкрытасцю, трыбуннасцю, вастрынёй праМаўлення, сатыр. пафасам і адначасова застаецца па-ранейшаму глыбока лірычнай, уражлівай, чуйнай да чужога болю (кн. «І вера, і вернасць, і вечнасць», 1986; «Горкі жолуд», 1988; «Высокі бераг», 1993). У пасмяротную кнігу паэзіі розных гадоў «Зямля ў мяне адна» (1996) увайшла і напісаная ў гады вайны паэма «Вандраванне ў нянавісць». Аўтар лірычных паэм «Беластоцкія вітрыны» (1940), «Маладосць у паходзе» (1946), «Патрыятычная песня» (1957, Літ. прэмія імя Я.Купалы 1959) і інш. Выступаў як крытык: кн. «На паэтычным небасхіле» (1977) і «Высокі бераг» (1993) у якіх змешчаны артыкулы, эсэ, успаміны пра Я. Купалу, Я. Коласа, А.Куляшова, А. Фадзеева і інш., пра падзеі літ. жыцця. Пераклаў на бел. мову асобныя творы А.Міцкевіча, М. Нагнібеды, Я. Райніса, А. Суркова, Ф. Шылера і інш.

# 75 гадоў з дня нараджэння Пятруся Макаля



**МАКАЛЬ** Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 25.8.1932, в. Крушыняны Беластоцкага ваяв., Польшча — 31.8.1996), бел. паэт. Скончыў Гарадзенскі пед. ін-т (1953), Вышэйшыя літ. курсы ў Маскве (1962). Працаваў у газ. «Гродзенская праўда», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», час. «Маладосць» (1957—60, 1980—83). З 1966 заг. літ. часткі Бел. рэсп. тэатра юнага гледача, з 1975 літ. кансультант Саюза пісьменнікаў Беларусі, у 1978— 80 у выд-ве «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1949. Імкненне раскрыць духоўную змястоўнасць і складанасць жыцця, багацце перажыванняў сучасніка — асноўнае ў паэзіі М. Ёй уласцівы метафарычна асацыятыўная вобразнасць, алегарычнасць, выкарыстанне сродкаў іроніі і сатыры: зб-кі «Першы след» (1955), «Вятрам насустрач» (1958), «Вечны агонь» (1960), «Круглы стол» (1964), «Акно» (1967), «Дотык да зямлі» (1975), «Поле» (1978; Літ. прэмія імя А.Куляшова 1980), «Смак яблыка» (1981; Дзярж. прэмія Беларусі імя Я.Купалы 1984), «Калыска долі» (1984), «Асенняя пошта ліетоты» (1987), «Азбука любві» (1989), «Лагода» (1992), «Твар і душа» (1995). Аўтар п'ес «За лясамі дрымучымі» (з А.Вольскім, 1958), «Адчыніце, казляняткі!» (1970), «Дай вады, калодзеж!» (1971), «На ўсіх адна бяда» (1974; усе паст. Бел. рэсп. т-рам юнага гледача), «Марынка-крапіўніца» (з А.Вольскім, 1962, паст. Дзярж. т-рам лялек Беларусі). Выдаў кніжкі для дзяцей «Хлопчык будзіць сонца» (1966), «Песня згоды» (1983), «Чарадзейная скарбонка» (1987), «Я гатую абед» (1989). На бел. мову пераклаў анталогію сучаснай славацкай паэзіі «Татры пяюць» (1976), зб-к вершаў М.Валека «Крылы», А.Шасцінскага «Помню і люблю» (абедзве 1978) і інш.

## НА САЙЦЕ МІНАДУКАЦЫІ РАЗМЯСЦІЛІ ПРАЕКТ НОВЫХ ПРАВІЛАЎ ПРАВАПІСУ

Заўвагі і прапановы па новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" можна накіроўваць на адрас: Міністэрства адукацыі на адрасы: вул. Савецкая, 9, п. 311, 220010, г. Мінск; ivchenkov@minedu.unibel.by або podlipskaya@minedu.unibel.by; на факс 200-84-83 з пазнакай "Для З.І. Падліпскай".

Сакратарыят ТБМ просіць сяброў ТБМ, а таксама ўсіх зацікаўленых асобаў копіі лістоў у Міністэрства адукацыі з прапановамі адносна новых "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" дасылаць таксама ў сядзібу ТБМна адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, siadziba@gmail.com для фармавання агульнага банку прапаноў па "Правілах..."



# Рабацінне на гожым твары

**(Некалькі заўваг аднаго народнага спажыўца да Ангельска-беларускага слоўніка Валянтыны Пашкевіч)**

Згаданы слоўнік зроблены высілкамі нябожчыцы спадарыні Валянціны Пашкевіч і, па ейным адыходзе, даведзены да канчатковага выгляду сябрамі Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва. Слоўнік выйшаў напрыканцы леташняга году ў Менску высілкамі выдаўца сп. Змітра Коласа.

**Скажу адразу: слоўнік добры. 30.000 рэестравых словаў, шматлікія выслоўі дазваляюць вольна падступіцца да самых розных неспецыялізаваных тэкстаў.**

Але хоць адна кабета з радыё "Свабода" лісліва назвала яго "фундаментальным", слоўнік гэтаму крытэру не адпавядае: ён замалы.

Агульнаведама, што немагчыма выдаць кнігу без хібаў, і людзі, што даводзілі слоўнік да ладу, добра гэта ўсведамлялі. І раз яны просяць выказацца, то вось якія мае заўвагі.

Слоўнік пачынаецца трохі з нязвычных экзатызмаў.

Пачну з імя аўтаркі-Валянтына. Звычайна ў нас кажуць мяккім варыянтам "ц": Валянціна. Нашто ж адмаўляць нашай мове права на асіміляцыю? Плот-плаціна, дротдраціна, Валент- Валянціна. Але як аўтарка хоча, хай так і завецца, гэта ейнае права.

Цяпер пра тытул слоўніка. "Ангельска-". *Ангельска*-гэта паланізм. Увогуле, самазоў насельнікаў Англіі (не Брытаніі!) *the English* з старога прыметніка *englisc* які паходзіць з *Angles* "англы насельнікі Брытаніі". Таму ўсё ж варта было б спыніцца на традыцыйным для Беларусі -"англійскі".

Рэестр слоўніка фармаваўся з амерыканскага варыянту англійскай мовы.

Гэта не дадае і не адбірае ад яго аніякіх дадатковых вартасцяў. Нам, беларусам, даводзіцца мець справу з абодвума варыятамі англійскай мовы. Таму гэта ні перавага, ні хіб.

Слоўнік бярэ пад увагу і тое, што ім могуць карыстацца і небеларусы. Акрамя падачы роднага склону назоўнікаў на ўсіх беларускіх словах пастаўлены графічныя націскі. Але ці то ўкладальнікі, ці то выдавец забылі, што ў беларускай мове ў спрадвечна беларускай лексіцы гукі "о, э"(як і літара "ё") заўсёды націскныя, таму пастаноўка на іх графічнага націску лішняя. Такія націскі пры перавыданні трэба будзе зняць, а ў раздзеле пра карыстанне слоўнікам падаць пра гэта заўвагу.

Укладальнікі падаюць спіс лексікаграфічных крыніц. Беларуская частка гэтых крыніц дастатковая, але бедная. Падаецца, што даробшчыкі ці то не ведаюць, ці то не маюць - а беларускі бок не параіў- шэрагу дастаткова сур'ёзных спецыяльных слоўнікаў з расейскай на беларускую, што выйшлі ў 90-я гады: матэматычныя, фізічны, вайсковы ды інш. Незаўважаны таксама добры, але пакутны "Украінска-беларускі слоўнік" шанаванай сп. Валянціны Лемцюговай. Таму і ў гэтым плане таксама ёсць магчымасць для мадэрнізацыі.

Варта было б падаць пару старонак пашыраных скаротаў, спіс найважнейшых міжнародных арганізацый. Варта таксама ўключыць у рэестр слоўніка найважнейшую гандлёва-бізнэсовую лексіку, трохі інтэрнэтна-камп'ютарнай ды медычнай. Тут працы - шчэ конь не валяўся.

Выклікае пярэчанне беларускі правапіс. Так, сёння нашая мова безнаглядная. Няма нармалізавальнага цэнтра. Усе ранейшыя спробы мадэрнізацыі "наркамаўкі" натыкнуліся на непрыняцце пісьменнай грамады. На маю і маіх сяброў думку апошняя спроба - "Беларускі клясычны правапіс" ("Вільня-Менск, 2005") - асабліва вычварная і пачварная, таму непрымальная і непрынятая адукаванай грамадой і ўжываная невялікай групай хаўруснікаў у "Нашай Ніве".

З часоў пакутніка сп. Браніслава (хвала яму і слава!) ў Беларусі склалася агульнанацыянальнае койнэ. Гэта цудоўна сфармаваная мова - звычная кожнаму беларусу мова Купалы, Коласа, Куляшова, Пысіна, Лобана, Быкава, Барадуліна і дзесяткаў іншых майстроў і чаляднікаў слова. Фанэтычная ламанне ўспрымаецца як крыўлянне.

"Тарашкевічава" контррэфармацыя. відаць. немагчымая, і дзякуй Богу. *Formative age*, як кажуць, нашае мовы збольшага мінуў і зараз гэта мова-прыгажуня. Калі што і мае патрэбу ў дасканаленні, то гэта сукенкі, вынік росту. Бадай адзінае. што не выклікае аніякіх пярэчанняў, гэта пазначэнне мяккасці звычных праз мяккі знак.

Таму слоўнік, прызначаны для ўжытку ў Беларусі, мусіць улічваць рэальны моўны стан і пазбягаць моўных экзатызмаў, такіх як "***duty*** дыжурства, дыжур" замест звычных "дзяжурства". Слова "дыжур" я наогул ніколі не бачыў. Я чытаў больш-менш дэталёва слоўнік з літары "S", калі канчаў працу над "Англійска-беларускім слоўнікам для слухання БіБіСі", астатнюю частку я пагартаў. Вось што я заўважыў далей.

**airborne:** перавожаны самалётам; пераношаны паветрам; */звыч.* "перавезены", "перанесены"/ *airborne troops:* войска, перавожанае паветрам. Дзіўнаватае слова "перавожанае", *звыч.* "перавезенае". /Тут а) паветрана-дэсантавыя войскі б) дастаўленыя па паветры войскі. (Дарэчы, у ілюстрацыях рэестравае слова падаецца цалкам; можна было падаваць рэестравае слова праз першую літару. Гэта зусім зразумела і ашчаджае мейсца. Надалей я буду падаваць так).

**Azerbaijani:** азербайджанскі. /Але не пададзена **Azery** з тым жа значэннем, дапр.; *Azery troops*: азербайджанскія войскі.

**bloody:** *he's a bloody fool.* Ён набіты дурань.|русізм| /Па-нашаму лепей "асёл маляваны", "Ён даўбешка/ ёлупень".

Шэраг словаў пададзены ў апісальным перакладзе. Гэта добра тлумачыць семантыку, але мала прыдатна для канкрэтнага перакладу. Скажам **pusher:** той, хто пхае| папіхач, штурхач; ці **vulnerable** *adj* слабы, даступны для ранення або нападу| слабы, кволы, безабаронны, уразлівы.

**Beside:** *b. oneself with delight:* не ў сабе, сам не свой ад захаплення |русізм| быць без памяці ад захаплення

**Cater:** дастачаць ежу/ цмянае слова/

**Endow:** абдорваць (талентам); абдараваць, надзяляць (зусім не ўсе дзеясловы маюць два трыванні; нават штучна зробленае незакончанае трыванне нязручнае ў практычным ужытку, то і не трэба маніякальна ствараць фіктыўныя формы.);

Як прыклад прывяду паразітную кальку з расейскага дзеяслова "отыскать" - *адшукаць, заміж наскага "знайсці". Якіх толькі форм для яго не выдумляюць! І *адшукваць, і *адшукоўваць. Яўнае сведчанне малапісьменнасці і бескультур'я.

Вось і ў Слоўніку: **wait out:** *перачэкваць; | "перачакаць" дзеяслоў закончанага трывання, але ж укладальнікі хочуць неадменна падаваць дзеясловы ў незакончаным трыванні. Таму і ўзнікла недарэчнае "перачэкваць"; Тое з словам **worsen** пагоршваць; калі натуральнае - "пагаршаць, пагоршыць"

Ці ўзяць слова **catch** *4.* Схопліваць. захопліваць ; тут ужываюць "хапаць. захапляць" Не, не да спадобы мне такая вольнасьць! |"Схопліваць" падае ТСБЛМ, але гэта малааўтарытэтны слоўнік. які пакутуе на русізмы.|

**Frantic:** умыслова хворы| незразумела, які хворы?

**lusty:** моцны і здаровы/ дужы і здаровы.

**paraffin:** парафін / + карасіна, газа.

**rampage:** разгул, *русізм/* шал.

**Save:** выратоўваць: / *(гл. вышэй worsen)* так кажуць старанныя гадаванцы гарадскіх школ, між тым, як апазіцыя па трываннях "ратаваць/ выратаваць". "выратоўваць" - пачварнае стварэнне.

**Saying:** "нешта сказанае, асьведчанае"./ Апошняе слова мне ніколі не сустракалася. Трэба прасцей: " выказванне" Нельга пярэчыць супраць падачы закончанага трывання замест татальнага незакончанага, там, дзе гэта неабходна;

**scale:** узьбірацца/ узлазіць; *turn the s.* стаць вырашальным фактарам, вырашыць

**scrape:** саскрабаць; саскрэбванне: /па-нашаму прасцей "скрабенне" ад "скрэбці, саскрэбці; саскрабаць" - Бог яго ведае адкуль ды і навошта два варыянты.

Разумнікі да "саскрабаць" дададуць "саскрэбваць".

Возьмем **season.** Сушыць, высушваць. вытрымваць: ёсць апазіцыя сушыць/ высушыць. "высушваць"- гэта выдумка; "вытрымваць" - недарэчнае ўтварэнне з двума губнымі —"м" і "в" побач. Звычайна ў нас ужываюць "вытрымліваць"

Тое ж у **stand by** датрымваць, падтрымваць, тады як нармальнае ў Беларусі "падтрымліваць"

Слоўнік амаль татальна хварэе менавіта на такую форму інфінітыву. З аднаго боку гэта сведчыць пра фармальную гнуткасць сістэмы, з другога спараджае непатрэбныя паразітныя дублеты. Такую форму інфінітыву не трэба фармаваць і навязваць.

Заўважу, наогул беларускі дзеяслоў праз недасведчанасць пісарчукоў падвяргаецца гайданню. Гэта непрыемна і тоіць небяспеку.

**Serial:** фільм, паказваны часткамі// які паказваецца; у нас прыжылося "серыял".

**Serrate:** зубчаты, зубчасты/ лепей "зубчасты".

**Shellfish:** таксама "малюск".

**Skin-tight:** які шчыльна прылягае да фігуры/ у абліпку.

**Slang:** яны лаяліся адзін на аднаго/ яны сварыліся.

**Sloppy:** хлюпотны/ гразкі.

**Sophisticated:** *a s. missile,* найнавейшая ўдасканаленая ракета/ найноўшая высокатэхналагічная ракета.

**Spectrum:** спэктральны/ спектральны.

**Spell out:** удакладняць, вытлумачваць/ тлумачыць (нашто дублет?).

**Stage**: інсцэнізаваць/ інсцэнаваць; варта было б абмежавацца "ставіць на сцэне", бо "інсцэнаваць" мае трохі іншае значэнне = рабіць штосьці наўмысна ці імітаваць: інсцэнаваць забойства, кражу, дапр.

**Stain**: пляміць, заплямваць: нашто гэты штучны дублет-паланізм?

**Stare:** узірацца, утаропвацца/ утаропіцца - дзеяслоў закончанага трывання не трэба "выдумваць" /выдумляць.

**Start**: усхопвацца/ дзеяслоў "усхапіцца" аднаразовы, то бок закончанага трывання: навязваць яму працяглае дзеянне, незакончанае трыванне, недарэчна.

**Stave**: прабіваць, праломваць дзірку:/ праломваць яўна штучнае з губнымі -мв-, прабіваць, праламаць дзірку - закончанае трыванне тут, дарэчы, для працяглага працэсу хапае "прабіваць".

**Stay**: стрымваць. затрымваць/ маніякальнае чаплянне за гэтую форму, заміж агульнаўжыванага "стрымліваць, затрымліваць".

**stay out:** пераседзець час гасьцявання (як гэта разумець? "не пайсці"?).

**step up**: павялічваць;/ павялічыць, павелічаць; "павялічваць" звычайная і пашыраная псота.

**Sterile**: бескарысны: / пашыраны русізм/ марны, бясплённы.

**stock breeder**: жывёлагадовец/ штучнае ўтварэнне з спробаю дакладнай падачы сэнсу; тут гэта дакладна "жывёлавод", хоць падсавецкабеларускае значэнне звялося да "даглядчык калгаснага быдла". Сэнс слова "бізнесмэн, які займаецца камерцыйным гадаваннем жывёлы".

**stockholder**: уласьнік акцыяў/ трымальнік акцый: калі акцыяў, то і "кароваў".

**stomach:** пераварваць, ператраўляць/ страву ў страўніку ператраўляюць: пераварваюць у гаршчку.

**Stone**: кідаць камянямі, каменяваць/ "каменяваць" яўны англіцызм/ шпурляць/ шыбаць каменне; закідаць / закідаць каменнем (два трыванні, адрозныя націскам! І ніякага "закідваць"!!!)

**store:** запасаць, назапашваць/ запасіць незак. тр., назапасіць зак. тр.; не трэба ствараць трывальны шум.

**Straddle**: раскірэчвацца, раскарачвацца/ я чуў толькі "раскірачыцца" зак. тр.; незак. тр. не мае. Тады навошта штучна ствараць?

**Strand**: увязнуць/ загрузці, угразці, захрасці.

**strange:** *I feel s.* мне не па сабе/ хай знойдуць добры беларускі адпаведнік русізму.

**Strangely**: чужа/ ніколі не чуў, не чытаў і не ведаю сэнсу.

**Streak** - варта было б падаць дзеяслоўнае значэнне.

**Studious:** у гэты артыкул памылкова патрапіла з наступнага за ім *study* выраз *studied simplicity*.

**substandard** : субстандартны/ нестандартны.

**suggest:** намякаць. рабіць намінку / рабіць намёк.

**sunflower seeds:** семечкі/ па-нашаму: зярняты; старанна пастаўлены націск у расейскім слове.

**support**: падтрымваць/ падтрымліваць, падтрымаць.

**sustain**: падтрымваць/ ізноў субстандартнае "падтрымваць"/ варта будзе пры перавыданні дадаць важныя словы ***sustainability, sustainable***.

**sweet milk**: сьвежае малако;/ свежанадоенае у нас завуць "сырадой"; малако, якое не збрыдзела, не пачало кісьці/ кіснуць/скісаць завуць "салодкае малако". А свежае, гэта якой даўніны і стадыі?

**table:** *to set the t.* накрываць (на) стол/ па-нашаму "збіраць на стол".

**target:** *трэба будзе дадаць дзеяслоўнае значэнне.*

**taste**: каштаваць, спрабаваць/ "спрабаваць"-яўны русізм; я чуў"спутуваць" існуе і "паспытаць", зак. тр.

**tears** *in t.:* у сьлёзах, з плачам/ абліваючыся, заліваючыся, заходзячыся слязмі.

**term:** перыяд *(школьнага навучання)*/-незразумела што за перыяд. Як гэта ў нас звалася б?

**test**: выпрабоўваць/ такі дзеяслоў можна стварыць, але два падобныя лабіяльныя гукі нязручныя ў маўленні./ я спы-ніўся б на пары "выпрабаваць"-рабіць выпрабаванне", пазбягаючы штучнага "выпрабоўваць";

**test ban**: пагадненне аб выпрабоўванні ядзернае зброі- недакладна. / у нас ужываюць натуральнае і лепшае слова "выпрабаванне"; лагічна ад "ядро" мець прыметнік "ядравы" то бок "выпрабаванне ядравай зброі"; *t. ban*-забарона на выпрабаванне; "пагадненне аб выпрабаванні ядравай зброі" гэта *t. ban treaty.*

**thresher**, 3: від акулы/ малаінфарматыўная падача. Мо "марская ліса".

**top**, 6: макушка/ што гэта?; калі праз расейскае "верх галавы", то мо "вяршок".

**trouble**: далягаць/ ніколі не чуў, не чытаў, не ведаю. Вядома *ignorantia non est argumentum*, але трэба ўцямна падаваць; *his wound t. him*-ягоная рана далягае яму. Мо "ён пакутуе ад раны"?

**upper:** *to get the u. hand;* варта было б падаць і *to have the u. hand* перамагчы, адолець.

**upset** *2.* расхваляваны/ усхваляваны; зажураны

**urine**: мача. русізм/ у жывым ужытку на Ўсходе (Рудабелка) і Захадзе (Жойдзішкі) чуў "моч" ж. р.

**vain** 1. ганарысты, зазнайлівы / фанабэрысты 2. бескарысны/ *прымітыўны пераклад русізму;* па-наску "бясплённы".

**variant**: разнавіднасьць/ кшталт.

**vein**: спаласіць *(быцам жыламі)! трэ знайсці нашае*

**vestal**: цнатлівіца/ цнатліўка, цнатлівая дзяўчына.

**vigil**: дыжурыць/ тут так не кажуць, *idem* не пішуць; гл. вышэй ***duty***.

**volatile**: лятучы. які лёгка выпараецца;/ лёткі, лёгкавыпаральны.

**voltage**: вальтаж, напружанне/ напруга

**volume**, 5: паўната, сіла гуку/ гучнасць, моц гуку

**wage-earner**: кармілец/ карміць- карміцель, здабытчык.

**waite**. 1. ёсьць. а 2. няма./ 2. абслугоўваць *(у рэстаране і пад.)*

**was:** *Was she late too?* Ці яна спазьнілаея таксама?/ *Парушэнне структуры агульнага пытання.* Правільна: Ці спазнілася яна таксама?

**washer**: пракладка, шайба/ падкладка.

**watch**: Стораж вартуе банк уначы/ а, бадай яго качкі! Вартаўнік!

**Waterproof+:** неабвержны *(факт)*

**way:** in a w.: у некатороым сэньсе/ у пэўным сэнсе

**whole**: цэльны *Ічыстай вады русізм; w. milk*: цэльнае малако/ неадстоенае малако.

**wineglass**: бакал/ келіх.

**within** +: цягам.

**worry**: дакучаць *русізм/* назаляць.

**worship**: багатварыць/ абагаўляць, горача кахаць.

**wrench**: гаечны ключ/ гайкавы— гайка.

**wright:** *a wheelw.* калясьнік/ стэльмах, калёснік (каляснік- гэта аб'ём сена на калёсах большы за капу і меншы за воз).

**wrinkle:** пакамячыць/ камечыць, пакамечыць.

**yaw:** рыскаць, *русізмі* нікаць, збівацца з курсу.

Прадукцыя спадара Змітра ведама мне як шэраг карысных і цікавых, але лінгвістычна не надта ахайна выдадзеных кніжак. Яму варта мець супрацоўніцу- адукаваную дзяўчыну ці маладзіцу вясковага паходжання, якая б вычытвала розныя пераклады і падпраўляла іх стылістычна. Спадар Змітарка, сачыце за пераможцамі розных алімпіяд па беларускай мове. Гэта наш нацыянальны скарб.

***Мікалай Кузмінец, Рудабельскі раён.***





# НЯМЕЦКІЯ НАЙМЕННІ СТРАВАЎ І НАПОЯЎ У ГАВОРКАХ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

У выніку гістарычнага кантактавання жыхароў Гарадзеншчыны з прадстаўнікамі нямецкага этнасу ў гаворкі гэтага рэгіёну трапілі з нямецкай мовы найменні страваў і напояў. Яны маглі прыйсці непасрэдна з мовы-пазычальніцы або праз пасярэдніцтва іншых моваў. Большасць з іх пранікла праз польскую мову. Нямецкімі словамі навукоўцы лічаць і тыя лексічныя адзінкі, што бытуюць і ў іншых заходнееўрапейскіх мовах, але ў беларускай мове яны маглі з'явіцца менавіта праз нямецкую мову, адаптаўшыся ў ёй пэўным чынам.

Для высвятлення нямецкага паходжання адпаведных найменняў страваў і напояў у народна-дыялектнай мове гэтага рэгіёну намі былі выкарастаны навуковыя і лексікаграфічныя працы вядомых даследчыкаў, у тым ліку этымалагічныя даведнікі. (Для скарачэння абсягу артыкула яны тут не ўзгадваюцца).

Шмат нямецкіх слоў абазначаюць хлебныя вырабы і стравы. Да іх належыць і даўняе ў славянскіх мовах слова **хлеб.** Лексема шырока засведчаная шматлікімі народнымі выслоўямі: *На Пятра баба хлеба напякла.* (Навагр.). *Хлеп не ўдаўся: пад скарынку кот схаваўся.* (Шчуч.). *Лепей хлеб з вадой, абы не з бядой.* (Астр.). *Хлеб ямо траякі: белы, чорны і ніякі.* (Ашм.). Выпечаны хлеб называюць таксама нямецкімі найменнямі **бохан, баханка** і **булка** 'фабрычны пшанічны хлеб': *Узяў у лаўцы дзве баханкі чорнага і булку.* (Зэльв.). Для абазначэння часткі бохана ўжываюцца назвы нямецкага паходжання - **скіба, скібачка, скібка, скіпка:** *Дай мне, мамо, скібачку хлеба.* (Зэльв.); **снітка** 'невялікая луста': *Вазьмі снітку хлеба і дай дзіцяці, хай ні плача.* (Гродз.); **мікра** 'крошкі хлеба': *Пазьбірай усе мікры с стала.* (Бераст.).

Сярод шматлікіх намінацыяў страваў з цеста ёсць і нямецкія пазычанні - **блін** 'тоўсты блінец са скваркамі (звычайна ў дарогу)': *Як паедзяш у балото, то бліноў напяку на дарогу.* (Зэльв.); **блінец** 'тонкая перапечка з рэдкага цеста (звычайна з дранай бульбы, прыпраўленая мукой), спечаная на скаварадзе'; **блінчык** 'тоненькі невялікі блінец (пякуць звычайна дзецям)': *Вам блінцэ, а Коліку блінчык.* (Зэльв.); **ляпёх** 'перапечка з хлебнага цеста': *Спячы, мама, ляпёх, паямо з малаком.* (Гродз.). Да назваў мучных вырабаў належаць і нямецкія словы **лайбушка** 'праснак': *Для лайбушкі цесто павінно быць кіслым, і пякуць яе на паніве толькі.* (Навагр.); **калдун** 'варэнікі з мясам або з грыбамі': *Сухія грыбы адварылі і робім калдуны.* (Навагр.). Спарадычна, як сінонім да *галушкі,* у гаворках сустракаюцца таксама нямецкія найменні **клёцка, клёцкі, гармушка** 'накрышаны ў малако (часам у пасоленую ваду) хлеб': *Бало мяшчаня на галушкі ўсё клёцкі казалі.* (Зэльв.); *Скарынкі накрышы ў малако і пахлёбаяш гармушкі.* (Зэльв.); **жура, жур, журка, журок** 'рэдкая страва, прыгатаваная з рошчыны ці падкалочаная мукой з дабаўленнем розных прыпраў': *Жур варылі з хлебнай рошчыны, з грыбамі, падбельвалі.* (Шчуч.).

Сярод найменняў печыва таксама ёсць нямецкія назвы: **пляцка** з двума значэннямі: 1. 'пернік, хлебнае печыва круглай формы': *Купіў малому пляцку.* (Карэл.) 2. 'сухары': *Хлеба зашмат было, дык я пляцак з яго нарабіла, у печы высахлі.* (Ашм.); **вахля** 'вафля': *Заўтра куплю табе вахляў.* (Бераст.) Для назваў салодкага харчу таксама выкарыстоўваюцца нямецкія словы **цукер, цукяр** 'цукар' і яго вытворныя **цукерка і цукерак.** Французскія найменні, якія ёсць і ў нямецкай мове, маглі адтуль трапіць у гаворкі Гарадзеншчыны: **канфітура** 'варэнне': *Мы, як паны даўней, наварым канфітуры з вішань і парэчак.* (Лід.) і **мурмуляда** 'мармелад': *Дзецям купіла трохі мурмуляды, нех парадуюцца.* (Воран.).

Для назвы ласункаў гарадзенцы ўжываюць лексікалізаваныя формы множнага ліку нямецкага наймення *смак:* **смакі, прысмакі, смакалыкі, смакатулі:** *На прысмакі ласыя ўсе сабакі.* (Зэльв.). Для абазначэння чаго-небудзь вельмі смачнага выкарыстоўваецца таксама слова **смаката:** *Якой ты хочаш смакаты?* (Ваўк.).

Старажытныя славяне займаліся пераважна земляробствам, таму і ў нашай, беларускай, кухні вельмі пашыраная раслінная ежа. Найбольш старажытная. традыцыйная страва беларусаў - шматлікія кашы, сярод якіх і слова нямецкага паходжання **груца:** *Наеўся груцы і пайшоў рабіць.* (Карэл.).

Важная адзнака матэрыяльнага побыту жыхароў Гарадзеншчыны - бульба, якую называюць другім хлебам беларусаў. Слова **картофля (картопля, картопле, картоплі)** прыйшло з нямецкай мовы: *Картофлі ў гэтым року насыпалі поўны склеп, будзя і сабе і свіням.* (Гродз.). У выніку метанімічнага пераносу "расліна —> страва" узнікла найменне **картоплі** 'бульба як страва': *От, картопяль з малаком паеў - і ўжэ ні голат.* (Зэльв.). Беларусы гатуюць з бульбы дзесяткі страў, сярод якіх ёсць і нямецкія назвы: **арцукі** 'адвараная бульба': *Маша, звары сёння арцукоў.* (Шчуч.); **гугаль** 'тушаная бульба з бручкай, морквай на гусіным тлушчы': *Помню, як жыдэ гугаль у медных каструлях у печках тушылі, — дастануць, тулькі пара ідзе, жоўты такі.* (Гродз.); **гугель** 'каша з дранай бульбы': *На абед быў боршч са смятанай, гугель і малочны кісель.* (Дзятл.); **смалітка** 'смажаная прыгарэлая бульба': *Смалітка вельмі смачная.* (Навагр.) і вытворныя ад слова *картофля* **картаплянка** 'каша з бульбы': *На абедзе была смачная картаплянка і капуста з баранінай.* (Смарг.); **картафлянік, картаплянік** 'блін з цёртай бульбы': *Мы сёння елі картафлянікі з маслам, то да вечара не хацелася есці.* (Іўеў.).

Для абазначэння прадуктаў расліннага паходжання выкарыстоўваюцца таксама нямецкія назвы - **алей:** *Алей рабілі з лянога насення.* (Маст.); **крахмал** 'крухмал': *Спадніцы і хусты крахмалам крахмалілі, самі часам зробім крахмал, а то купляюць.* (Воран.). Прыправы на Гарадзеншчыне таксама маюць нямецкае найменне **прысмакі:** *Без прысмакаў з'ясі, не велькі пан.* (Зэльв.), а ў значэнні 'маяран' выкарыстоўваецца лексема **майранак:** *Як майранак ёсць, такужэ не трэба ні перцу, ні лаўровага ліста.* (Гродз.).

Для прыгатавання розных страваў шырока ужываецца агародніна і садавіна. Яны таксама маюць нямецкія назвы. Гэта словы **цыбуля** 'караняплод цыбулі'; **цыбуленё, цыбулька** 'пер'е цыбулі': *Я цыбулькі вышчыкнуў.* (Лід.); **флянцоўка** 'цыбуля, выраслая з расады': *Цыбулю флянцоўку садзяць па каліву.* (Ваўк.); **фасоля, фасоль, фасола, пасоля, пасолька:** *Фасолю да круп добра падкінуць.* (Астр.); **гурок, агурок:** *Як станя многа гуркоў, будуць дзяшоўшыя.* (Навагр.). У выніку метанімічнага пераносу нямецкія словы сталі выкарыстоўвацца як назвы і самой стравы: **цыбуля** 'салат з зялёнай цыбулі': *Цыбулі нарабіла: нарвала шчыпяроў, пацерла с сольлю і смятанаю заліла - ешча на здароўе.* (Зэльв.); **пасоля** 'суп з бульбы і фасолі': *Нахлёбаўсё пасолі і будзя зь міне.* (Зэльв.).

Для абазначэння садавіны выкарыстоўваюцца нямецкія назвы -**рызынкі** 'разынкі': *Варылі рызынкі з яблыкамі.* (Карэл.); **цытрына** 'лімон': *Зрабі цытрыны з мёдам, кажуць, памагая ад даўлення.* (Бераст.).

Вельмі актыўныя ў маўленні гарадзенцаў нямецкія найменні, якія называюць розныя гатункі яблыкаў і грушаў, - **ранэта, ранэткі, гранэткі** 'ранет': *У дзедавым садзя гранэткі ёсьць. От смачныя!* (Астр.); **цукроўка** 'гатунак яблыкаў або грушаў': *У нашаго суседа цукроўкі яблыкі вельмі салоткія.* (Шчуч.); **цытрыноўка** 'гатунак салодкіх яблыкаў': *Хоча завясьці цытрыноўку: натто смашныя яблыкі.* (Зэльв.).

Сярод найменняў сала і тлушчаў ёсць таксама нямецкія назвы -**шмалец, шмаляц, шмальц, шмеляц, смалец:** *Як гусь файная, то шмальцу шмат.* (Зэльв.); **шпэк** 'свіное сала': *Раз да нас прылез некі нямчурыско і кажа: "Матко, шпэк ё?, а маці яму — а хваробу табе ў бок, ні шпэк".* (Гродз.); **шмароўка** 'кусочак сала для змазвання патэльні': *На прыпячку ў сподачку ляжала шмароўка, дзе яна падзелася?* (Шчуч.).

Да намінацыяў нямецкага паходжання належыць назва **флячкі** 'кішкі': *Учора флячкі чысціла на кілбасы.* (Бераст.).

Шырока распаўсюджана на Гарадзеншчыне нямецкая назва рыбнай стравы **ляк.** Слова мае два значэнні: '1. Расол з селядцоў; лёк. 2. Халоднае з рыбы'. Яно бытуе ў шматлікіх фанетычных варыянтах: **воляк, глёк, голяк, клёк, лёк, лёкус, олек:** *Даўней у пост макалі бульбу ў голяк.* (Гродз.). Суп называюць гарадзенцы нямецкім словам **зупа** (зупка): *Зупу гатавалі з грыбоў.* (Гродз.).

У народна-дыялектнай мове Гарадзеншчыны бытуюць дзве нямецкія назвы алкагольных вырабаў - **шляма** (магло ўзнікнуць у выніку метафарызацыі) 'брага': *Моцная ш на гэты рас шляма атрымалася, перахадзіла добра.* (Ашм.) і **трунак** 'алкагольны напой': *Кожны трунак чалавеку шкодны, але ўсяроўно п'юць.* (Гродз.) Слова *трунак* набыло ў гаворках два дадатковыя значэнні: 1. 'віно': *Такога трунку хлябнуў, што адразу зваліўся з нох. Ад розных трункаў цяпер перайшоў да самагону.* (Карэл.); 2. 'атрута': *Не можна вотку піць - гэта трунак.* (Астр.). Да назваў безалкагольнага выраба належыць французскае слова **кампот:** *Мы ўсё бало чай казалі, як варылі з грушаў ці вішняў, а цяпер кажуць - кампот.* (Зэльв.). Яно прыйшло, на думку навукоўцаў, ў народна-дыялектную мову з літаратурнай праз нямецкае пасярэдніцтва.

Ад нямецкіх намінацыяў страваў і напояў у гаворках утварылася шмат прыметнікаў: **картопелісты, сцукраваны, пасолевы:** *Маці зварыла пасолевы суп, то паела добра.* (Слонім.) і дзеясловаў: **смаліць, трынкаць, трынкнуць, сцукравацца, шлямаваць:** *Шлямаваць - гэта чысціць кішкі, шлямаваць - здзіраць унутраны слой нажом ці дупчыкам.* (Свісл.) і інш.. Словаўтваральныя здольнасці нямецкіх словаў сведчаць, што яны добра прыжыліся ў гаворках Гарадзеншчыны і ўсведамляюцца як свае лексемы.

Спіс скарачэнняў у назвах раёнаў: Астр. - Астравецкі, Ашм. - Ашмянскі, Бераст. - Бераставіцкі, Ваўк. - Ваўкавыскі, Воран. - Воранаўскі, Гродз. - Гродзенскі, Дзятл. - Дзятлаўскі, Зэльв. - Зэльвенскі, Іўеў. - Іўеўскі, Карэл. - Карэліцкі, Лід. - Лідскі, Маст. -Мастоўскі, Навагр. - Навагрудскі, Свісл. - Свіслацкі, Слонім. - Слонімскі, Смарг. - Смаргонскі, Шчуч. - Шчучынскі.

***Святлана Масленікава,***
***аспірантка Гарадзенскага універсітэту імя Янкі Купалы.***

# У скарбонку беларускай лінгвістыкі

**У выдавецтве "Беларускі кнігазбор", г. Менск выйшаў "Нямецка-беларуска-рускі слоўнік. Аманімія, паранімія, полісемія". Укладальнік Валянціна Выхота.**




У прадмове да слоўніка гаворыцца: "За час сваёй шматгадовай даследніцкай працы і працы ў школах, асабліва сельскіх, была магчымасць заўважыць і даследаваць спецыфічныя асаблівасці навучання нямецкаму слову беларускіх вучняў. На мой погляд, *ёсць вялікія групы нямецкай лексікі.* Першая група — словы агульнага кораня, ці, як кажуць, словы, якія маюць агульную крыніцу паходжання, другая група лексікі, калі ў якасці карэспандуючых беларускіх ці рускіх слоў выступаюць міжмоўныя беларуска-рускія амонімы, паронімы і полісемія, і трэцяя — «фальшывыя сябры перакладчыка».

*Першая група слоў* мае свае дадатныя бакі пры навучанні нямецкай мове — гэта перанос папярэдняга моўнага досведу пры супадзенні формы і зместу цэлых слоў, напрыклад, Dach *n* — дах (рус. крыша), ці проста сугучных слоў, напрыклад, Zwiebel - цыбуля (рус. лук), ці, нарэшце, сугучных гукаспалучэнняў, на-прыклад, Niere - нырка (рус. почка). Адсюль больш лёгкі працэс запамінання нямецкага слова, апазнавання ў друкаваным тэксце і ў маўленні. Трэба адзначыць, што гэта група слоў з'яўляецца крыніцай пашырэння слоўнікавага запасу.

*Другая група слоў* мае таксама свае дадатныя бакі. Яна з'яўляецца сродкам дыферэнцыяцыі міжмоўных беларуска-рускіх (русско-белорусскнх) амонімаў, паронімаў і полісеміі і тым самым вызначае правільны пераклад нямецкага слова.

*Трэцяя група слоў* — «фальшывых сяброў перакладчыка» — разглядаецца ў асобнай кнізе.

Пры даследаванні на вялікім матэрыяле і з вялікай колькасцю вучняў школ рэспублікі, асабліва сельскіх, былі выяўлены тысячы памылак, тыпавых і індывідуальных, высветлілася іх прырода, прычым, агульная — гука-графічнае падабенства. Гэта факт вядомы. Але важна было прасачыць узаемаўплыў карэспандуючых слоў.

З'яўленне такіх памылак знаходзім у тлумачэнні В.А. Арцёмава. Пры чытанні графічны вобраз перакадзіруецца ў гука-маторны і артыкуляцыйны апарат падсвядома прымае пазіцыі для выканання ідэнтычных у нямецкім і ў нацыянальным ці рускім словах адзінкі артыкуляцыі — складоў. Склады нясуць нейкі элемент лексічнага значэння. А.Л. Лурыя указвае, што вакол кожнай лексічнай адзінкі складаецца шматмерная сетка сувязяў і пошук адпаведнага беларускага слова можа выклікаць цэлую сетку ўсплываючых слоў, адны з якіх узнікаюць па прынцыпу агульнага кораня пад уплывам установкі эксперыментатара."

Паводле доктара філалагічных і педагагічных навук А.Я. Супруна, слоўнік, які прапануецца чытачу, можа лічыцца вучэбным слоўнікам. Прызначэнне слоўніка — дыферэнцыяцыя сугучных беларускіх і рускіх слоў сродкамі нямецкіх лексем. Але яго частку —індэкс беларуска-рускіх амонімаў, паронімаў і полісеміі можна аднесці да паняцця «фальшывыя сябры перакладчыка».

***Наш кар.***



№ 32 (820) 22 ЖНІЎНЯ 2007 г. НАША СЛОВА

*Мікалай Даніловіч,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

# ГАВОРЫЦЬ НАША ГРОДЗЕНШЧЫНА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**28.** Ат, міленькі, якая гэта жызьня. Жыў як гарох пры дарозе. Стары чалавек нікому не патрэбны. Я й дзяцей выгадаваўшы, траіх маю, а ўсё адно адна. Старэйшая на цаліну паехала, тамака й засталася. Ці ш яна даедзя? Цяперака й цэны шалёныя, білет тысячы каштуе. Дзяцей от адна гадуе. Са сваім сходзілася, расходзілася, вось судзьбу й пакалечыла. Як сабе хочуць, я ўжо нічым не памагу. Хлопец у Мінску, грошы добрыя мае, да мяне на сваём таксі прыяжжае. Целевізэр мне купіўшы. А малочшая на стройцы недзе ў Лідзе, ужо лет васемнасьце, мо й болей. Я хату сыну сьцерагу. Ён жыць тутака ня будзе, дык хоць прадасьць. Цяпер маладыя ня хочуць у вёсцы жыць, усё ў гарадах за балконы трымаюцца. А я ў іхнія вуллі тожа не палезу. Тут сама сабе гаспадыня. Дзьверы аччыніла – і на вуліцы, на слонейку пасядзіш. А там не дамы, а вуллі. А сам навучыцелем робіш? То, мусіць, шалёныя грошы грабеш? І адзеты чыста. Я адразу ш падумала, што начальнік. Хаця цяперака і сьвет зьмяніўся, ня знаеш, што ад начальніка чакаць. У нас (вы чулі?) у сельскім савеце адна працавала, абакралася, судзілі яе, а цяперака за пеньсіянерамі ўхаджвае. Мне ваду, бывае, прыносіць, падлогу намые. А мне брытка, прывыкнуць не магу, гэтакі чалавек была. Пытаеце, дзе гаспадар? Даўно нямашака, памёр яшчэ як у калхозы зганялі. Перавёс с хутара гэты дом, а потым адышоў, вечны яму покуй. Зямлі ў нас было гактараў восем. Усё пааддавалі, бо Сібірам страшылі. А ў касьцёл не хаджу, хоць ён цераз дарогу. Я дома малюся, як мая мама вучыла, бо наша вера справядлівая, і мы тутэйшыя, тубальцы. А на польскія, я гэных палякаў не ўважаю, папрыяжжалі сюды, усё па-свойму робяць, імшу не так апраўляюць. А я гэна не люблю, дык лепш ужо адна памадлюся. Люблю яшчэ наша радзіва слухаць, калі Ліля Кузьменка гаворыць. Хоць, пэўна, яна таксама шмат брэша. А хто цяпер праўду кажа? Вось так ы жыву. Як-небуць даклёваю да канца.

*Жанчына, 1911 г. н., в. Баруны Ашмянскага раёна, 1993 г.*

**29.** Раскажу я табе, дзеткі, як замуш раней выходзілі. Цяшкі быў час. У песні пяецца: ён багаты, а я бедна, будзе пара атпаведна. Ды няпраўда гэта, дзетачкі. Бацька мой багаты быў, зямлі ў нас шмат было, дзяцей нішмат было. Пасах за мной вялікі давалі. А як жа ш раней замуш ішлі? Сколька рас да мяне сваталіся. Маладая я стройная была. Каса ў мяне была, знаіш, да пояса, і гэдыкая чорная, як смаляністая. Ну дык вот, прыедуць да мяне сватацца, а я, бывала, схаваюся ў сьвіран ці ў гумно ды не выхожу да іх. Мама мяне ўсё прасіла: "Дзетачкі, хваціць ужо бацьку зласаць. Выхадзі замуш, пакуль жаніхі ёсь". Але мне натта не хацелася ісьці за ўсіх гэтых кавалераў. Бо любіла хлопца зусім другога. Граў у нас на вічарынках Андрэй такі. Рэтка ён бываў у нашай вёсцы, але граў ён спрытна. У час танцаў дась свайму другу пайграць, кап зьмяніў яго, а сам са мной гуляў. Бывалі выпаткі, што начаваў у вішнях пад акном маёй хаты. Але маладая я на той час была, толька васімнаццаць споўнілася, а ён хлопец старэйшы. Яму пара было жаніцца. Бацька мой сварыўся, што я з ім дружу. Казаў, што рамясло ў яго непрыгоднае, дый зямлі німа. Сястра й матка патстроілі так, што на Вялікдзень мы пасварыліся. А на Пятро жаніліся яго на другой. Плакала я і рукі ламала, ды нічога ш ні зробіш. Адзела сваю самую горшую і старую сукенку ды пайшла глядзець, як ён вянчаецца. Стаяў бедалага, і трасло яго як на марозе. Ні любіў ён сваю жонку, жыў зь ёй блага, біў часта. Яго часта прасілі у вясельлі пайграці, а калі яшчэ і я там была, дык ён ішоў туды вельмі ахотна. Калі іграў яго напарнік, дык ён прасіў у майго хлопца, кап даў хоць адзін танец са мной пагуляць. Бывала, гладзіць мяне па галаве, як той Луіс Марыяну, пацалуе мяне ў валасы. А я аш заходжуся ад болі. Душа ў мяне ныіць. Але куды ш дзенісься, замуш трэба выходзіць. І пасватаўся да мяне хлопец з другой вёскі. На выгляд так сабе. Але клапатлівы гаспадар, ціхі. Плакала я, не хацела ісці. Але куды падзенешся ат бацькоўскай пугі. Бацька мяне пугай калаціў. Бывала, так спаласуе, што два дні падняцца з лошка не магу. Вянчалася я зь ім як у тумане, не помню анічога. Пражылі гот, усяго было, хіба толькі шчасьця не ставала. Сьцярпелася, але ш не зьлюбілася. Нарадзіўся сын. І цяшка было, і біў мяне мужык, і п'яны дамоў прыходзіў. Гаварыла я з тым хлопцам сваім часта. Жалеў ён мяне, і я яго жалела, але ні разу ў гэтым яму не прызналася. Нядоўга ён пражыў на гэтым сьвеце. Прас пару гот пасьля вясельля забілі яго хапуны. Хадзілі такія баньдзіты па лясах. Паругаўся ён адзін рас з жонкаю. Ехаў на ровары па ляску, і парашылі яго гэтак. А цяпер, дзеткі, вот замуш толькі па любові выходзяць. Бацькам у пасьледнюю очарэць гаворыць. І хіба ведаеш, як яно лепяй? Па-рознаму ш бываіць. Каторыя дык і добра жывуць, хоць і бацькі не даюць пажаніцца. А хто і разводзіцца, б'юцца паміш сабой, а бываіць і бацькі хочуць, кап жаніліся і радуюцца за дзяцей, а толку з гэтага ніякага. Пытаюся, бываіць, у сына: "Чаму жаніўся на Вольцы?" Пачырванеіць і кажыць, што любіць ён вельмі яе.

*Жанчына, 1914 г. н., в. Лылойці Смаргонскага раёна, 1992 г.*

**30.** Вайной у вёску прыслалі бежанцаў з Віцепшчыны. Прыехала сям'я, да сусеткі пашла матка, а да нас яе дочка, ну, гадоў, можа, дванаццаці. Другая дачка ў другую сям'ю, мела, можа, гадоў дзевяць. Жылі яны ў нас, можа, ад вясны праз лета да зімы. Дзевачка пасьціла кароў, па хазяйству памагала, то дроў прынясе, то вады. Потым сабраліся і паехалі на сваю родзіну, а аттуль прышло пісьмо, што ні было ім там чаго есьці, ш чаго жыць, усё жыта пабіла фронтам. Вярнуліся ў вёску нашу з малочшай дочкай, дзевачку ўзялі да сябе, а матка пашла ў другую вёску, ні было тут мейсца, бо ніхто ні хацеў браць. Нізадоўга матка захварэла. Хазяйка прывезла яе пад нашу хату, вывярнула, а сама паехала. І што нам зь ёй рабіць? Цэлую нядзелю ляжала, за пару дней захварэла яе дочка ў нас, а потым і наша сям'я: мама, я, Лёдзя і Янусь. Дохтар выправіў нас у бальніцу, а бежанка гэна папраўілася і стала даглядаць хазяйства. На шчасьце выжылі мы ўсе, у бальніцы застаўся толькі брат Янусь, самы слабейшы быў. Гэна хвароба была тыфус. Бежанка была вінавата, бо ні сказала нам, што яе другая дочка памярла з гэнай хваробы. Муш быў у Латвіі, і яны туды выяхалі, ніякага пісьма ні было, і ні аказаліся. Усяго было ў нашай сям'і вайной. Старэйшага майго брата забралі ў турму ў Вілейку, за Маладэчнам чы што. У нейкую арганізацыю быў улешшы са сваімі друзьямі. Потым забралі другога брата, малочшага, ад мяне быў старшы. Лёня быў у Ашмянах, а малочшы ў вёсцы Навасёлках, у яго падлогі паднялі, шукалі нечага. А ў хаце асталіся ў старшага жонка і адзін сынок, а малочшы нежанаты быў. Жонка вазіла Лёню у Вілейку прадукты, бялізну нейкую змяніць – ні ўзялі. У нядзелю было ў нас сьвята, хацелі вывясьці за гэтых братоў. Ні нашлі нас у хаце, хацелі ў пятніцу, а ў нядзелю немцы прышлі. Немцы тут – саветы атпаўзьлі. Рускія, адыходзячы, старшага брата забілі, а малочшага гналі на Катынь. Але амэрыканьскі Чырвоны Крыш разрашыў выжжацьь, атпусьцілі ўсіх у дарозе. Брат паехаў у сталіцу, уступіў у армію Андэрса і яшчэ доўга ваяваў. З Ытаіліі пераехаў у Аргентыну і памёр там. А ў старшага страшная сьмерць была. Як гавораць, нейдзе каля турмы стаяла баня невялічкая. Некаторыя гавораць, што іх там памучалі, паабразалі насы, а Янусь гавора, што проста забілі. Стася гаварыла, што пулю ў патыліцу, і ў адзін дол восем чалавек скінулі. Тады людзі перахавалі на магільнік. Франка шукаў нядаўна магілу ў Вілейцы, але ні найшоў.

*Жанчына, 1917 г. н., в. Асіпаны Смаргонскага раёна*

**31.** Ну ўжо як дагаворацца сваты, прад васэлям у чвартак зьбіраюцца ў маладой паненкі на вянок. Вэлюм шыюць, пяюць. Хлопцы ў малалога на кавалерскі зьбіраюцца, выпіваюць, жартуюць, як ён з вольнай жызьню прашчаецца. Бацькі шыкуюцца. самагонкі ўжо нагналі, каравай пякуць, кабаніны абвараць, розных там шубаў не выдумлялі, бо ня ўмелі. Але хватала і руляду, і квашаніны поўныя місы. Як малады прыяджае, у сенях мушчыны пяроць на жалеза: "Кавай!" Сваты мусяць ім фундаваць. Бабы авечку трасуць і пяюць: "Ой, авечачка, ты касматачка, хто ш цябе папасе, мая матачка?" Бывае. што і за маладую гэтакую бабу пасадзяць, убяруць у што белая, пакрыўку на галаву ўськінуць, а настаяшчая маладая муся месца выкупляць. На другі дзень маршы ігралі, дарылі. А як мой сусет Віцька, дык вякіня астатнюю капейку, абы яго хвалілі, абы яму з гонарам. Музыканты яго хваляць, а ён ім грошы валіць. А так васолы быў чалавек, ганаровы. Шляхетны, с Астраўца. Там некалі яго бацька пікарню трымаў. Возьме с хаты с сабой назаўтра ўбярэцца ў доктара, ходзя, людзей хеліць, жартуя, байкі розныя пляце. Мая Вікця цопам-лопам, дзела справіла галопам. А як Вінцуся наш, дык уп'яна ўсё песьні складаў. Мая Аньця файная-файная... Ці біліся дауней на васэлях? Было. Зьбяруцца дзяцюкі зь вёскі, ім, відома, на васэлі, зафундуюць. Дык дурнейшыя, і давай вадзіцца, а посьля і паб'юцца. Ззлямі пярыліся. Натта Косця Румынцаў і пакойны Юзык Цініфалаў былі заядлыя. Даўней у другі бок ехала толькі лепшая радзіна, хто ні падвядзе, ні апазорыць. Посьля, бывая, зьбіраліся фацэты, енджалі ў "цыганы". Паненкі ўбяруцца ў сукні доўгія, нашмаруюцца і паехалі. Вырабляюцца там, жарты строяць, песьні пяюць. Помню, як дарылі. Пасадзяць маладую за стол, яна галося, а радзіна падарка прэ, сват у бэльку качаргой б'е, пяе: "Цібе, Маначка, сястрыца дора, ты ўстань, пакарыся, нізенька пакланіся".

*Мужчына, 1912 г. н., в. Дайлідкі Астравецкага раёна, 1994 г.*

# Сувязь пакаленняў

Сёлета, ужо ў 14-ты раз на Беларусі адзначаецца вялікае свята – Дзень беларускага пісьменства і друку. Летась свята адзначалася ў г. Паставы, а сёлета эстафету прыняў г. Шклоў.

Стваральнікамі славянскага алфавіту, як вядома, былі хрысціянскія прапаведнікі Кірыл і Мефодзі. Алфавіт гэты дастаўся ў спадчыну і нам, беларусам. Беларуская пісьменнасць бярэ пачатак з сівой даўніны – ад Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага (XII стаг.). З цягам часу беларускае пісьменства і друкарства ўзбагацілі асветнікі Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Пётр Мсціславец. Сімяён Полацкі. Па колькасці выдатных асветнікаў сярэднявечча Беларусь, на маю думку, займае вядучае месца не толькі сярод рэспублік былога Саюза, але і, навогул сярод краін Заходняй Еўропы. Пазней у скарбніцу беларускай літаратуры вялікі ўклад унеслі Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў і многія іншыя майстры беларускага слова.

Шырокую вядомасць на Беларусі атрымалі і пісьменнікі Дзяржыншчыны (Койданоўшчыны), такія як Станіслаў Шушкевіч, Артур Вольскі, пісьменніцкая сям'я Рэйзінаў (4 чалавекі), Лукаш Калюга. Алесь Салавей, Генадзь Тумаш, Юры Брайдэр, Лідзія Савік, Адам Глобус і інш.

Ганарыцца Дзяржыншчына і такімі сваімі руплівцамі беларушчыны як гісторыкі, літаратары Мікола Улашчык, Мікола Ермаловіч, вучоныя–філолагі Мікола Бірыла, Васіль Івашын, Антон Семяновіч.

Як і сотні іншых пісьменнікаў і вядомых людзей Беларусі былі безпадстаўна рэпрэсаваны ў часы сталінскага ліхалецця Станіслаў Шушкевіч, Мікола Улашчык. Быў расстраляны, як "вораг народа", Лукаш Каюга, загінуў на "этапе" Залман Рэйзін.

Менш вядомыя грамадкасці, але таксама заслугоўваюць вялікай увагі, сябры літаратурна-паэтычнага клуба "Выток", створаннага ў 1998 г. пры Дзяржынскай раённай цэнтральнай бібліятэцы. У клуб уваходзяць розныя па светапогляду, узросту людзі, але агульнае, што іх аб'ядната – гэта жаданне выказаць у сваіх творах пачуцці, думкі, любоў да роднага краю.

Творы іх адзначаюць шчырасцю, чысцінёй. Клуб "Выток" узнік не на голым месцы яшчэ ў 1957 г. пры раённай газеце было створана літаратурнае аб'яднанне, якое ўзначальваў Уладзімір Куксо, галоўны рэдактар "раёнкі" з 1974 па 1998 г. Літаратурная старонка ў газеце была ўпершыню адкрыта ў 1963 г., калі рэдакцыю ўзначальваў Рыгор Уранаў. У розныя часы ў газеце друкавалі свае творы будучыя беларускія паэты Леанід Левоновіч, Мікола Гіль, Казімір Камейша.

У 1989-98 гг. літаб'яднанне ўзначальвала ўлюбёная ў паэзію цяперашні адказны сакратар рэдакцыі газеты "Сцяг Кастрычніка" Валянціна Навіцкая. А з 1999 г і па сённяшні час кіраўніком клуба "Выток" з'яўляецца супрацоўніца бібліятэкі Святлана Кузьміна.

На маю думку, лепшую назву для клуба, чым "Выток", цяжка і прыдумаць. Галоўны бібліятэкар Дзяржынскай бібліятэкі, паэтэса Вольга Жыбурт у сваім вершы піша:

*Паэзія – выток душы,*
*Азоранай святлом кахання і натхнення.*

З гэтымі радкамі верша цяжка не пагадзіцца. У склад "Вытоку" ўваходзілі такія таленавітыя людзі, як Алесь Галуза, Яўгенія Лапо, Мікола Рысявец, якіх, на вялікі жаль, ужо няма на свеце.

Сёння радуюць свімі творамі сябры "Вытоку" Вольга Жыбурт, Марына Клініхіна. Тацяна Байкова, Іван Кулеш, Святлана Колас, Зміцер Шавялёў і інш. У 1997 г. убачыла свет кніга Віктара Шаціла, "Белы чалавек", былі выдадзены зборнікі вершаў Галіны Казак "Подых шчасця", Валянціны Серавокай "Не забыць". У 2003 г. выйшаў паэтычны зборнік "Выток".

Пра любоў да роднай старонкі добра гучыць у вершы Святланы Колас "Маленькая радзіма":

*Я прасёлачнай дарогай крочу,*
*Зіхацяць нібыта зоркі вочы.*
*Усе куточкі мне тут сэрцу мілы,*
*За маёй спіной нібыта крылы.*

Тая ж тэма і ў вершы Міколы Рысяўца "Шчасце":

*І дзе б ні быў, як лёс назначыў,*
*Цягнула моцна ў родны кут,*
*У снах я Бацькаўшчыну бачыў*
*Адзін з зямных, найлепшы цуд.*

Шмат вершаў паэтаў Марыны Клініхінай і Івана Кулеша пакладзены на музыку.

У дзейнасці клуба вялікую дапамогу аказвае рэдакцыя газеты "Сцяг Кастрычніка" (гал. рэдактар Генадзь Курневіч, намеснік Віктар Уранаў), і, вядома ж, Дзяржынская бібліятэка (дырэктар Жана Галякевіч), Гэтыя ўстановы таксама і выдаўцы шматлікіх кніг, брашур і інш. матэрыялаў.

Сувязь пакаленняў працягваецца: на змену знакамітым пісьменнікам, узбагаціўшым беларускую літаратуру, прыходзяць маладыя таленавітыя людзі з такіх літаб'яднанняў і клубаў, як у г. Дзяржынску – "Світанак", у г. Мазыры – "Прыпяцкія хвалі", у г. Узда – "Нёманец" і інш.

Поспехаў Вам, маладыя, новых творчых задум і здзяйсненняў.

***Лявон Целеш, г. Дзяржынск.***



№ 32 (820) 22 ЖНІЎНЯ 2007 г. Наша Слова

*Памяці Міколы Ермаловіча*

**Здзіслаў Сіцька**

# Па слядах літвы

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Паводле хронікі Тытмара, біскупа Мерзебургскага, у 893 г. вялеты, на той час ужо вядомыя як люцічы, разам з абадрытамі ўзнялі паўстанне *(Thietmari Merseburgensis episcopi Chronicon. Ed. M. Jedlicki. Poznań, 1953. IV, 45 // I, 3, p.52; VI, 24, P. 348)*, якое называюць антыфеадальным, антынямецкім і антыцаркоўным *(Развитие этнического самосознания славянских народов... С. 203)*. Ды, як і належала ўчыніць магутнаму племянному звязу, паўстанцы не абмяжаваліся толькі збройнымі выступамі. У вызваленчай барацьбе люцічы „выявілі асаблівую адданасць племянному грамадскаму ладу" і супрацьпаставілі пагрозе хрысціянізацыі далейшае развіццё паганскіх культаў *(Тамсама)*. Прыняцце хрысціянства атаесамлялася імі, вядома, з стратай грамадзянскай свабоды і нават незалежнасці. Люцічы нібы прадбачылі горкі досвед суседзяў – абадрытаў. Іх галоўны князь Гойшалк (1010 – 1066 гг.) падтрымоўваў добрыя стасункі з саксамі і датчанамі, прыняў хрысціянства і пачаў хрысціць супляменнікаў. Ён цягам 20 гадоў уводзіў у сваім княстве хрысціянства, будаваў касцёлы. Такія дзеі галоўнага князя не маглі не выклікаць абурэння. Паганскія святары падбухторылі абадрытаў на паўстанне супраць яго і ягонай палітыкі. Гойшалк быў забіты *(Mały słownik kultury dawnych słowian. S. 125)*.

Адсутнасць цэнтральнай улады ў вялетаў-люцічаў кампенсавалася асаблівай арганізацыяй паганскага культу. У люцічаў, калі параўноўваць іх з роднаснымі ім сорбамі ды лужычанамі, паганская вера набыла больш развітую форму, а таму значна больш паўплывала на фармаванне іх этнічнай свядомасці. „Менавіта ў 30-х гг. X ст. складваецца новая форма паганскай веры люцічаў... Гэта быў **паганскі політэізм**... Яму была ўласцівая тэрытарыяльная структура: племянныя паганскія боствы «апекаваліся» не пэўнай сферай чалавечага жыцця, а пэўным племянным абшарам. Існавалі таксама боствы з надплемяннай «кампетэнцыяй». У люціцкім горадзе Радагошчы знаходзілася галоўная святыня і зборны пункт для агульных ваенных паходаў. Там жа захоўваліся штандары, з якімі люцічы хадзілі ў паход. Для аховы, сталага нагляду за святыняй і дзеля выканання абавязкаў, звязаных з наладжваннем паганскага культу, насельніцтва выбірала асобных служкаў" *(Развитие этнического самосознания... С. 204)*.

Але, як падае нямецкі храніст Гельмольд, аўтар лацінамоўнай „Славянскай хронікі", паходы саксонскіх феадалаў супраць славянскіх княстваў прывялі да спустошання Мекленбургіі: „І зышлі славяне, што жылі ў навакольных паселішчах, і прыйшлі саксы і асяліліся тут. Славяне ж паступова знікалі з гэтай зямлі" *(Гельмольд. Славянская хроника. М.,1963. С. 245)*. (Згаданы ляўтэрбергскі дакумент 1186 г. супярэчыць Гельмольду.) Пад націскам саксонцаў шукаць новую радзіму пайшлі самыя вольналюбівыя, самыя магутныя роды. З гэтымі гуртамі пайшлі і ваяры-літва, якім, бяззямельным і безмаёмасным, не было чаго траціць. А іх ваярскае майстэрства патрэбнае было ўсюды. Да таго ж, літва, як і колішнія ліцы, надзвычай варожа ставіліся да хрысціянізацыі, што прыходзіла разам з германскімі захопнікамі.

Як згадвалася, ці не сама перш ваяры-літва перасяліліся ў Пабужжа, дзе знаходзім сляды палабскіх плямёнаў. Літва дайшла і да Балканаў, дзе і сёння ля вытоку ракі Спрэчы, прытока Босны (вадазбор Дунаю) ёсць паселішча ***Litva*** *(Карта: Югославия. ГУГК, 1980. Квадрат 7 — В)*. Вядомы наш гісторык Алесь Жлутка падаў антрапонімы **Lytuoy** wojavode, **Lithvay**, **Lit*vayovcy*** і тапонімы **Litua**, **Litouia**, **Lytua** з Падунаў'я – тэрыторыяў Румыніі, Чэхіі, Славакіі, „якія знаходзяцца на значнай адлегласці ад абшараў, займаных балтамі" *(Жлутка Алесь. Літва на Балканах (Першасны сэнс назвы). // Спадчына. 2000. № 5-6. С. 90-95)*.

Аселі выгнанцы і панад Нёманавымі прытокамі. І да гэтага часу ў Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўпецкім, Маладзечанскім раёнах стаяць вёскі Літва. Калісьці іх заснавалі ваяры-літва. А аддаленыя яны адна ад адной, верагодна, таму, што крывіцкія ўладары гэтых земляў ужо ведалі пра літву - прафесійных, спрактыкаваных ваяроў ды пабойваліся іх еднасці, маючы за прыклад захоп улады ў Кіеве падобнымі дружынамі ругаў-русаў.

Полацкія князі, якім належала Панямонне, дазволілі літве асесці ў нейкіх важных для Полацкага княства месцах. Вядома, атрадаў літвы было нашмат больш, як то можна меркаваць з пазнейшых летапісных звестак пра шматлікіх удзельнікаў розных паходаў літвы. А таму пасялілі літву не толькі, прыкладам, на Шчары, на памежжы з дрыгавічамі, з Пінскім княствам, але і па-над Усой, прытокам Нёмана, на мяжы з Тураўскім княствам. Відаць, таксама памежнымі паселішчамі сталі ва Усходняй Беларусі Стрэшын і Абольцы. Што да першага, то наша меркаванне пра верагоднае пасяленне бежанцаў з Мекленбургіі вынікае з адной заходнеславянска-беларускай паралелі: Strisenowe *(з дакументу 1285 г.)*, пазнейшая Dorf Striesenow у акрузе Гюстраў І-79 - Стрэшын. Абольцы ж згадваюцца ў Ягайлавым прывілеі 1 3*(Ochmański J. Ludność litewska... S. 156)*.

## Абольцы

### Горад з прадмесцем

За мэту гэтага даследавання не ставілася этымалогія беларуска-мекленбургскіх тапонімаў. Зрэшты, сэнс шмат якіх празрыстых: польская мовазнаўца М. Ежова выводзіць іх з розных славянскіх дыялектаў Мекленбургіі, а тыя гаворкі мала адрозніваюцца ад нашай мовы. Аднак не могуць не прываблiваць увагі назвы, з якімі некаторыя даследнікі лучаць пэўнае міфічнае племя. Да ліку такіх тапонімаў, поруч з сёламі Лотва, Літва, Яцвязь ды іншымі належыць назва мястэчка Абольцы, што знаходзіцца каля вытокаў рэчкі Абалянкі ў Талочынскім раёне Віцебскай вобласці.

У старых хроніках Абольцы згадваюцца як мястэчка ўжо пад 1147 г. *(Nasze koscioly. T. 1. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, Petersburg, 1913. С. 103)*. Ды больш вядомай становіцца гэтая мясціна пазней, калі „ў 1387 г. кароль Уладзіслаў Ягайла пабудаваў тут святыню з драўніны лістоўніцы" *(Тамсама)*. То быў адзін з сямі першых касцёлаў, якія кароль забавязаўся пабудаваць для ахрышчанай літвы, г. зн. для ваяроў-літвы, што прынялі хрысціянства. Разважаючы над гэтай фундацыяй, здзіўляўся польскі гісторык Ежы Ахманьскі, адкуль у Вільні маглі ведаць пра абалецкую літву. Ды больш дзіўным было б, каб Ягайла не ведаў, дзе жывуць ягоныя прафесійныя ваяры. Да таго ж, на той час Абольцы ўжо былі вядомым горадам. Так, паводле „Спіса рускіх гарадоў" *(„Списка русских городов")* Ноўгарадскага І летапісу сярэдзіны XV ст. горад „Оболчи" значыцца ў асобным пераліку гарадоў пад загалоўкам „а се литовъскыи" *(Тихомиров М. Н. Русское летописание. М., 1979. С. 95)*. А значыць, Абольцы мелі, прынамсі, драўляныя абарончыя збудаванні, бо складальнік „Спіса рускіх гарадоў", падрыхтаванага да 1392 г. *(Тихомиров М. Н. Русское летописание. С. 88)*, „пад горадам разумеў умацаванае места" *(Тамсама. С. 90)*.

Дзіўна, што Абольцаў не ведалі аўтары літоўскіх летапісаў. А „Хроніка Быхаўца" згадвае гэтае паселішча толькі пад 1499 г. Тады вялікі князь ВКЛ Аляксандар Ягайлавіч „стаў у Обольцах, і там жыў немалы час", а таксама прымаў пасла ад вялікага князя Маскоўскага *(ПСРЛ. Т. 32. С. 167)*. Гэтае паведамленне ўскосна сведчыць, што Абольцы не былі звычайнай вёскай.

Уключэнне Абольцаў у пералік літоўскіх гарадоў азначала, пэўна ж, толькі прыналежнасць да Вялікага Княства Літоўскага, а не нацыянальнасць мясцовых жыхароў. Так, вядомы расійскі акадэмік М. М. Ціхаміраў зазначыў, што „гарады, населеныя толькі літоўцамі (жамойтамі – З.С.), прапушчаныя ў «Списке», таму што яны не падыходзілі пад агульнае паняцце рускіх. Няма нават такіх літоўскіх (жамойцкіх – З.С.) гарадоў, як Біржы, Кейданы, Шаўлі, тады як Вільна і Трокі з іх мяшаным літоўскім і беларускім насельніцтвам паказаны ў спісе" *(Тихомиров М. Н. Русское летописание. С. 88)*. Вядома, згаданых жамойцкіх гарадоў у той час магло і не быць. Аднак М. М. Ціхаміраў уявіў, што ў аснову вызначэння прыналежнасці горада складальнік „Списка" „паклаў прынцып мовы" *(Тамсама)*. Такім чынам, ускосна пацвярджаецца славянскасць літвы і ўяўляецца асабліва важным у сувязі з вызначэннем этнічнага складу насельніцтва Абольцаў ды, асабліва, этнічнай прыналежнасці жыхароў абалецкага прадмесця — „сяла Літоўскі Канец" (***канец** — частка горада). (Срезневский И.И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам. Т. І. СПб, 1893. Стб. 1274)*.

### "Баярскае" паселішча

„Канцамі" звычайна называліся баярскія сядзібы-паселішчы. Так, знакаміты расійскі археолаг і гісторык В.Л. Янін сцвярджаў: „Насельніцтва ж канца складалася з баяраў і непасрэдна залежных ад іх людзей, што жывуць у баярскіх сядзібах" *(Янин В.Л. Социально-политическая структура Новгорода в свете археологических исследований. // Новгородский исторический сборник. 1 (11). Л-д, 1982. С. 91)*. Ён жа трактаваў канчанскую структуру не як звычайны адміністратыўны падзел, а як „сістэму повязі баярскіх патраніміяў (баярскіх спадчынных сядзібаў — З.С.) у межах паселішча" *(Тамсама)*. І паступова з канчанскіх паселішчаў складвалася адміністрацыйная адзінка - горад. Так, пачынаючы з X ст., на аснове баярскіх сядзібаў будаваўся сацыяльна-палітычны лад старажытнага Ноўгарада — цэнтра Ноўгарадскай „баярскай рэспублікі" *(Янин В.Л. Проблемы социальной организации Новгородской республики. // История СССР. 1970, № 1. С. 48)*. Кожны з ноўгарадскіх канцоў быў незалежнай ад князя палітычнай арганізацыяй, што „мела ўласнае веча і выбарныя ўлады *(Тамсама. С. 52)*. Важна зазначыць, што „Ноўгарад быў заснаваны баярамі,.. і веча ў Ноўгарадзе старажытней за князя" *(Алешковский М.Х. Социальные основы формирования территории Новгорода IX — XV вв. // Советская археология. 1974, № 3. С. 109)*. (Як ужо згадвалася, расійскімі навукоўцамі было выказана меркаванне пра паходжанне ноўгарадцаў з міжрэчча Лабы і Одры, пра вечавую сістэму ўлады на тых славянскіх землях. Таму гэтае важнае сведчанне можа служыць падставай для высноваў пра заснаванне ваярамі-літвой ці баярамі-літвой Абольцаў ці хоць бы абалецкага „літоўскага канца", а таксама і пра вечавую структуру ўлады ў Абольцах ды ў некаторых іншых крывіцкіх гарадах.)

Зазначым. „Канцы" знаходзіліся па-за межамі горада — умацаванай часткі паселішча, што відаць, прыкладам, на схематычнай карце старажытнага Ноўгарада. Канчанскае дзяленне не было асаблівасцю Ноўгарада, — сцвярджаў расійскі даследнік А.В. Арцыхоўскі, — але было ўласціва „шэрагу гарадоў як і ў Ноўгарадскай зямлі, так і па-за яе межамі" *(Арциховский А.В. Городские концы в Древней Руси. // Исторические записки. Т.16. М.,1945. С. 3)*. І паводле ягонага вызначэння, канцы – гэта раёны, якія мелі самакіраванне *(Тамсама. С. 4)*. Варта дадаць, што канчане мелі свае вайсковыя фармаванні. Так, „вайсковая арганізацыя Ноўгарада здаўна была звязана з канчанскім ладам. Кожны канец выстаўляў пэўную колькасць ваяроў" *(Подвигина Н.Л. Очерки социально-экономической и политической истории Новгорода Великого в XII – XIII вв. М.,1976. С. 103)*.

Безумоўна, падобнае адміністрацыйнае дзяленне было і ў Вільні, Менску ды, верагодна, у Навагарадку. Так, у даследаванні У. Загорскага з гісторыі абраза Маці Божай Вострабрамскай чытаем пра віленскае прадмесце, г. зн. Востры канец: „... па Ostrym koncu miasta, gdzie miaia stanec brama Krewska, albo Miednicka, pozniej Ostre przezwana" *(Zahorski Wiadyslaw, dr. „Obraz NMP Ostrobramskiej w Wilnie". Kwartalnik litewski. 1910. T. 1. Rok I. S. 21)* (...на Вострым канцы горада, дзе мелася стаць Крэўская, або Медніцкая, брама, пазней Вострай празваная).

У грамаце караля Рэчы Паспалітай Аўгуста ІІ ад 11 сакавіка 1720 г. Менскаму жаночаму бенедзіктынскаму кляштару згадваецца Татарскі канец *(Белоруссия в эпоху феодализма. Т. II. Мн., 1960. С. 196)*, які раней называўся Пятніцкім, відавочна, паводле Пятніцкай царквы *(Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 143)*. Знакаміты наш этнограф Павел Шпілеўскі не толькі згадаў, што там жывуць татары. Ён патлумачыў: „Канцамі ў старажытных славянаў... называліся прадмесці або больш аддаленыя часткі горада ад самога цэнтра або ад замка" *(Тамсама)*, і падаў Пятніцкі канец за доказ старажытнасці Менска.

Верагодна, што і Навагарадскі г. нз. вакольны горад уяўляў з сябе падобную самастойную адміністратыўную адзінку. Так, дзеля абароны яго быў пабудаваны ў XII ст. вал. У раскопах навагарадскага вакольнага горада былі знойдзены меч, наканечнікі дзідаў, кісцень, ахоўны рыштунак (кальчуга і пласцінчаты даспех), часткі рэчаў з рыштунку вершніка і баявога каня, а таксама цэлыя наборы „жалезных стрэлаў" у кожнай (!) багатай пабудове *(Ф.Д. Гуревич. Древний Новогрудок. Л-д, 1981. С. 134)*. На падставе гэтых знаходак Ф.Д. Гурэвіч прызнавала, што ў навагарадскім „багатым квартале былі ўсе ўмовы дзеля стварэння сваёй вайсковай арганізацыі" *(Тамсама)*.

Менавіта па аналогіі з сацыяльным складам Ноўгарадскіх ды іншых „канцоў", улічваючы повязь „вайсковай арганізацыі" з канчанскім ладам, і трэба разглядаць сацыяльны стан жыхароў абалецкага „літоўскага канца" — літвы. Праўда, польскі гісторык Е. Ахманьскі не ўжывае гэтага тэрміна, а толькі слова баяры. І паводле ягонага меркавання „існавала ў Абольцах група айчынных, тутэйшых баяраў літоўскіх, побач з якімі ў палове XV ст. з'явіліся літоўскія баяры з далёкай Літвы" *(Ochmacski J. Ludnoњж litewska we wioњci Obolce na Biaiorusi Wschodniej w XIV — XVI w. // Acta Baltico-Slavica. 5. Biaiystok, 1967. С.152)*.

### Хто ж жыў у Абольцах?

Е. Ахманьскі на падставе занатаванага ў актах „сяла Літоўскі Канец" сцвярджаў прысутнасць у Абольцах „літоўскага элементу" і „перавагу літоўскага насельніцтва над рускім (беларускім – З.С.) у адносінах 15 да 11" *(Ochmacski J. Ludnoњж litewska... S. 153)*. Ён, разумеючы пад словам *літоўскі* (у арыгінале litewski) прыналежнасць да племя літва, выказаў і меркаванне пра „літоўскае насельніцтва, якое ў XIV — XV стст. (і пазней) жыло ў абалецкай вотчыне". Яно, мабыць, „было рэшткамі літоўскага племені балтаў" *(Тамсама. С.157)*, чый арэал, нібыта, прасціраўся ад Акі да Балтыйскага мора.

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

*(Працяг. Публікацыя была перапынена пасля № 4 ад 24 студзеня 2007 г..)*

Раздаліся гукі нацыянальнага гімна, і ў залу ўвайшоў імператар услед за высокапастаўленымі службоўцамі, якія неслі Дзяржаўны сцяг і меч - Скіпетр і Дзяржаву - атрыбуты самадзяржаўя; бледны і ўсхваляваны, сеў на трон.

Яму перадалі зварот, які ён прачытаў стоячы. Мы добра яго чулі ў адрозненне ад астатніх, размешчаных у аддаленні. Нас здзівіла тое, што, звяртаючыся да ўсяго народа, ён адмыслова падкрэсліваў: "дарагіх майму сэрцу сялян", у той час як іншыя саслоўі не ўдастоіліся ніякіх эпітэтаў. Падобнае падлашчванне "таго, хто ўтрымлівае ўладу" рэдка прыносіць жаданыя вынікі. Пасля чытання маніфеста раздалося "ура", але не вельмі дружнае, бо даносілася яно толькі з боку старых Дзяржрады і Сената, усхваляваных і ўсведамляючых важнасць моманту, калі беззваротна перагортвалася старонка гісторыі дзяржавы. Гэтае "ўра" не было дружна падхоплена чальцамі Думы, якія складаліся ў асноўным з гэтых "дарагіх сэрцу сялян". Пазней мы дазналіся ад нашых дэпутатаў Думы, што выгляд гэтай выдатнай світы зусім ім не імпанаваў. У залацістых упрыгожваннях яны бачылі "людскую кроў і пот", а строі прыдворных дам каментаваліся цынічным чынам. Пасля крыкаў "ура" вайсковы аркестр ізноў выканаў гімн "Коль славен" ("Слаўся"). Імператар у суправаджэнні світы пакінуў залу праз супрацьлеглае выйсце. Калі я стаяў і размаўляў, да мяне падышоў Сталыпін і спытаў аб уражаннях. Я адказаў яму, што "мяне здзівіла тое, што з таго асяроддзя, пра якое яго вялікасць найболей сардэчна адзываўся, амаль ні аднаго воклічу ў яго гонар не пачулася, а тыя, каго ён адмыслова не ўспамінаў, падтрымалі яго". Сталыпін пацісну плячыма і сказаў: "Едзем у Думу, паглядзім, што будзе там". Памятаецца такія ж уражанні былі і ў Вітэ, бо, праз некалькі тыдняў, ён спытаў у мяне: "Як Вы думаеце, з гэтай Думы што-небудзь атрымаецца?" І сам адказаў: "Нічога з яе не атрымаецца, таму што толькі любові ўласціва быць творчай, а я не заўважыў гэтага пачуцця ў тых, для каго яго вялікасць гэтулькі зрабіў і намерваецца зрабіць. Я бачыў у іх толькі нянавісць да ўсяго таго, што ўзносіцца над натоўпам".

Ад Зімовага палаца да Таўрычнага, у якім знаходзілася Дума, быў кавалак дарогі; ехаць прыйшлося марудна, паколькі, чым бліжэй да мэты, тым жвавей быў рух, а на Абойнай вуліцы было так цесна, што карэты ледзь прасоўваліся, і конная паліцыя і вайскоўцы ўжо не маглі кіраваць сітуацыяй.

Чым бліжэй пад'язджалі да Таўрычнага палаца, тым гучней былі чуваць крыкі: "Амністыя, амністыя!". Хачу адзначыць, што з часу гапонаўскага шэсця і да нашых дзён маса людзей была высланая або кінутая ў турмы за ўдзел у дэманстрацыях і палітычных змовах.

Некаторых чальцоў Дзяржаўнай Рады, якія праязджалі у карэтах, натоўп пазнаваў і вітаў апладысментамі; іншыя ехалі з занавешанымі вокнамі, баючыся варожых выхадак.

Таўрычны палац, спехам пабудаваны магутнай воляй Кацярыны для прыёму Пацёмкіна, які вяртаўся з Крымскага паходу, меней пышны звонку, меў вельмі прыгожыя залы ўсярэдзіне, пабудаваныя і аформленыя ў стылі тагачаснай эпохі. Распавядалі, што будынак не вельмі дыхтоўны па прычыне абмежаванасці часу на аздабленне, адведзенага Кацярынай архітэктарам. Сцвярджалі, што ўнутраныя каланады зробленыя з дрэва і пакрытыя штучным мармурам. Аднак жа ён прастаяў амаль паўтара стагоддзі; а адслаенне тынкоўкі і яе падзенне былі звязаныя ўжо з пазнейшымі работамі, выкананымі пры падрыхтоўцы залы для правядзення паседжанняў Думы, што можна было спісаць на рахунак сучасных "умельцаў".



*Эдвард Вайніловіч*

Прыбыўшы ў палац і накіроўваючыся ў ложу, прызначаную для чальцоў Дзяржаўнай Рады, я ізноў сустрэўся са Сталыпінам, які, адчыняючы дзверы ў ложу і, уваходзячы адначасова са мной, сказаў: "Ну, паражагнаемся і паціснем адзін другому рукі для будучай сумеснай працы". Ці меў ён ужо тады на ўвазе тыя свае прапановы, якія праз 3 месяцы намерваўся выказаць больш падрабязна?

Зала быў перапоўнена, а напружанне было такім, што, здавалася, досыць невялікага інцыдэнту, каб справакаваць выбух. У сувязі з хваробай прастарэлага старшыні Дзяржаўнай Рады графа Сольскага ў крэсле прэзідыюма засядаў віцэ-старшыня Фрыш. Ён зачытаў зварот імператара і даручыў сходу прыступіць да абрання старшыні Дзяржаўнай Думы. У сувязі з неабходнасцю правядзення ўсіх маніпуляцый пры падачы і падліку галасоў працэдура абрання зацягнулася, хоць кожнаму было вядома, што кадэты, якія кіруюць балем у Думе, ужо даўно прызначылі на гэтае месца Мурамцава, маскоўскага адваката, чалавека ва ўсіх адносінах адпаведнага гэтай ганаровай пасадзе. Пасля абрання сапраўдны таемны дарадца Фрыш саступіў месца Мурамцаву, які пад бурныя апладысменты, займаючы старшынскае крэсла, падзякаваў за давер і аказаны яму гонар і прапанаваў "прагукаць "ура" у гонар нашага канстытуцыйнага манарха". Ужыванне гэтага тэрміну, нідзе ў афіцыйных дакументах не прадугледжанага і не зацверджанага, выклікала шквал апладысментаў і гучнае "ўра", якое без гэтага акцэнту, або нават хітрасці, было б далёка не такім гучным. Адначасова на трыбуну ўскочыў адзін з братоў Петрункевічаў і выгукнуў слова "амністыя", якое выклікала новы ўраган эмоцый. Пасля чаго Мурамцаў адразу ж адклаў наступнае паседжанне, каб паводле рэгламенту накіравацца ў Царскае Сяло для прадстаўлення яго імператарскай вялікасці. Важна адзначыць, што падчас падліку галасоў, калі ўжо пытанне абрання старшыні зтольшага было вырашана, тагачасны старшыня Рады Міністраў Гарамыкін (тып закаранелага на высокіх пастах бюракрата) узяў пад руку Мурамцава і накіраваўся з ім за трыбуну ў паўкруглую частку залы паседжанняў для рашэння з ім некаторых бягучых пытанняў, якія не цярпець адкладу. Іх нарада працягвалася як мінімум адну гадзіну, чым і прыцягнула ўсеагульную ўвагу.

Адкрыццё Дзяржаўнай Рады адбывалася ў вялікай дваранскай зале на Міхайлаўскім пляцы, паколькі так званы "Марыінскі палац" яшчэ не быў гатовы. Усё адбывалася вельмі спакойна, паводле цырыманіялу, з малебнамі вышэйшага сталічнага святарства і выдатным выкананнем прыдворнай капэлы.

Такім чынам, у краіне быццам бы пачалося новае жыццё, але насамрэч яно было больш багатае на боязь, чым на надзею, паколькі ўрад ніколі не жадаў шчыра рухацца ў кірунку ажыццяўлення абяцаных у маніфестах рэформ, выканання якіх па-ранейшаму патрабавалі дэпутаты. Паміж тым, дэпутаты забывалі, што яны самі, нягледзячы на ўяўныя свабодалюбныя настроі, ухіляліся ад выканання сваіх абяцанняў адносна Крэсаў, так дэманстратыўна выказваных на з'ездах земцаў, якія быццам бы рухаліся ў нацыяналістычным кірунку.

Пасля канца ўрачыстасцяў з нагоды адкрыцця неабходна было падумаць пра сталае месца жыхарства, што было зусім нялёгкай задачай у сувязі з нечаканым перанасяленнем сталіцы. Аднак мне ўдалося знайсці мэбляваныя і адпаведныя майму статуту апартаменты з прыслугай і ўсімі выгодамі на Сапёрным, 19, якія мне здала баранэса Граевеніц, маці былога маршалка Пінскага павету і тагачаснага губернатара дзесьці ў Наваросіі. Сама яна з'ехала за мяжу. Кватэра была размешчана паміж Думай і Дзяржаўнай Радай, гэта значыць, у вельмі зручным месцы. Там я і жыў у перыяд існавання I і II Думы. Падчас склікання III Думы я жыў спачатку на Марской, 56, побач з кірхай, але даўжэй за ўсё ў гасцініцы "Hotel de France".

### Распрацоўка статуту

Польскае прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай Радзе і I Дзяржаўнай Думе было досыць шматлікім, бо сярод 412 думскіх дэпутатаў са ўсёй дзяржавы, 36 дэпутатаў былі ад Польскага Каралеўства, прычым так званы "Заходні Край" паставіў у I Думу больш за 20 дэпутатаў. У Дзяржаўнай Радзе палякі складалі 18 чалавек, сярод якіх 7 - з "Кангрэсуўкі", 9 -з Заходняга Краю (па адным ад кожнай губерні) і 2 - выпадкова абраныя з ліку расійскіх прамыслоўцаў, а менавіта: Глезмер з Пецярбурга і Вінцэнт Паклеўскі-Казёл з Урала. Такім вялікім прадстаўніцтвам - 36 дэпутатамі - Каралеўства павінна быць удзячна майстэрска праведзенай працы сярод афіцыйных уладаў Варшавы дэпутатам Дзяржаўнай Думы Яўстахіем Дабецкім. Нажаль, гэта працягвалася нядоўга; урад заўважыў, што польскія галасы занадта моцна ўплываюць на пастановы Думы, і на наступных выбарах колькасць думскіх дэпутатаў ад Каралеўства была скарочаная да 6-ці. З іншага боку, дэпутаты ад Каралеўства, якія мала арыентаваліся ў сітуацыі кіруючых колаў, сваімі паводзінамі спрыялі гэтаму скарачэнню. Але пра гэта ніжэй.

У склад чальцоў Дзяржаўнай Рады ўваходзілі наступныя палякі ад 9 заходніх губерняў: ад Кіеўскай - Сырачынскі, ад Падольскай - Вацлаў Елавіцкі, ад Валынскай - граф Ян Алізар, ад Віленскай - Гіпаліт Корвін-Мілеўскі, ад Гарадзенскай - Дзімітр Карыбут-Дашкевіч, ад Ковенскай - граф Аляксандр Тышкевіч, ад Магілёўскай - Аляксандр Быкоўскі (кадэт, які неўзабаве выйшаў са складу Дзяржаўнай Рады, а на яго месца быў абраны Уладзіслаў Войніч-Сенажэнцкі), ад Віцебскай - Лапацінскі, ад Менскай - Эдвард Вайніловіч. Дэпутатамі ў Дзяржаўную Раду ад Кароны з'яўляліся: Яўстахі Дабецкі, барон Леапольд Кроненберг, граф Юзаф Астроўскі, Антоні Напюркоўскі, Канстанцін Пшаўлоцкі і Станіслаў Гаўронскі, а таксама ад горада Варшавы - Станіслаў Ротванд. У сувязі з затрымкай выбараў гэтыя дэпутаты прыбылі ў сталіцу пазней.

Перад прыбыццём дэпутатаў з Каралеўства, мы спачатку збіраліся на кватэры гасціннага калегі графа Тышкевіча на прыватныя нарады. Затым, калі дэпутацкая група была ўжо ў поўным складзе, свае апартаменты нам даў барон Кроненберг на вуліцы Махавая, 14. Там, за малымі выключэннямі, амаль пад увесь час існавання заканадаўчых палат праходзілі нарады дэпутатаў Дзяржаўнай Рады.

Рэдагаванне статуту нашай групы ў Дзяржаўнай Радзе адымала ў нас масу часу. Ведаючы з практыкі, што расійская бюракраты заўсёды насцярожана ставяцца да любой салідарнасці ўсходніх ускраін з Каронай, а таксама, бытшы перакананыя самі, што часам інтарэсы гэтых двух раёнаў могуць адрозніваца, мы аднагалосна вырашылі, што павінны існаваць дзве групы, кожная са сваім старшынём, але аб'яднаныя адным статутам і персонай агульнага старшыні. Гэта быў фармальны бок справы, па сутнасці ж мы ішлі ў адным кірунку. Пару раз на год з'яўлялася неабходнасць асобных паседжанняў той або іншай фракцыі, і тады рашэнні дадзенай фракцыі выносіліся старшынём на "форум" абедзвюх, якія павінны былі падтрымліваць адна другую салідарнымі дзеяннямі на пленарным паседжанні Дзяржаўнай Рады.

Кожны, хто мог назіраць за паседжаннямі заканадаўчых палат, разумее, якую важную ролю мае статут, і таму да распрацоўкі свайго статуту мы падышлі самым сур'ёзным чынам. Досвед польскіх прадстаўніцтваў у Вене і Берліне, плюс матэрыялы і заўвагі такіх дзяржаўных дзеячаў як Ю. Астроўскі і Я. Дабецкі, палегчылі нашу задачу. Пасля доўгага абмеркавання намі былі распрацаваны і прыняты "Статут саюза фракцый Польскага Каралеўства і краёў Літвы і Русі ў Дзяржаўнай Радзе ў Пецярбурзе", арыгінал якога можна знайсці ў каментарах да арыгіналу. Трэба прызнаць, што статут быў вельмі цвёрдым, а індывідуалізм дэпутатаў вельмі няёмкім, але пакуль што вельмі карысным, бо калектыў нашых дэпутатаў спачатку не меў ні палітычнага, ні парламенцкага доведу. Магчыма, дзякуючы гэтаму статуту, нашым прадстаўнікам ўдалося пазбегнуць памылковых крокаў і заслужыць ганаровую павагу ў Дзяржаўнай Радзе.

### Выбары. Пасада старшыні групы дэпутатаў ад Літвы і Русі

Пасля прыняцця статуту былі праведзеныя выбары спачатку ў кожнай групе: на пасаду старшыні дэпутатаў Дзяржаўнай Рады ад Каралеўства быў абраны Юзаф Астроўскі, а старшынём дэпутатаў ад Літвы і Русі - Эдвард Вайніловіч. Затым аднагалосна агульным старшынёй абедзвюх груп быў абраны Эдвард Вайніловіч, а віцэ-старшынём - Юзаф Астроўскі, сакратаром - Канстанцін Пшаўлоцкі. Абавязкі старшыні я выконваў у перыяд склікання I і II Думы. Калі мы сабраліся на III Думу, старшынём абедзвюх груп быў абраны Яўстахі Дабецкі, а старшынём ад Літвы і Русі - граф Алізар. Такая сітуацыя заставалася да канца нашай працы, г.зн. да канца склікання, якое працягвалася замест трох чатыры года.

Пасада старшыні была вельмі ганаровай, але сама праца на гэтым пасту была вельмі цяжкай. Па-першае, прыходзілася мець справу з людзьмі, якія ўсюды ў сваіх правінцыях займалі кіраўнічыя пасты, самі ўсюды былі "старшынямі", і не прывыклі падпарадкоўвацца, па-другое, большасць з іх мела прадузятае меркаванне, што "Вайніловіч усіх водзіць за нос", таму яму трэба паказаць, што тут ніякага "самавольства" не будзе дапушчана. Дарэчы, гэта было заўсёды ў традыцыях дваранства - выбіраць караля на волі, каб зрабіць жыццё яго несалодкім на троне. Таму я павінен быў быць заўсёды напагатове, сачыць за сабой і іншымі, каб ніякія канфлікты не змаглі азмрочыць салідарнасць нашых груп і пацешыць чужое вока. Ці ўдалося мне гэта зрабіць, судзіць лепш маім калегам.

*(Працяг у наст. нум.)*



# Бліскавічная сіла паэзіі Анатоля Бароўскага

***Пабачыла свет кніга паэзіі старшыні Гомельскай абласной рады ТБМ Анатоля Бароўскага "З бліскавіцай заручуся".***

З Анатолем Бароўскім я пазнаёміўся - аж страшна падумаць! - амаль трыццаць гадоў таму. Так, так, то было акурат напрыканцы 1977-га...

Мяне толькі што на раённай справаздачна-выбарнай канферэнцыі абралі сябрам бюро Гомельскага райкама камсамолу і зацвердзілі загадчыкам арганізацыйнага аддзела. На які месяц-другі раней першым сакратаром стаў Аляксей Карпенка, сакратаром па школах - Галіна Гуд.

Спадчына ад папярэднікаў засталася незайздросная, асабліва што тычылася росту радоў ВЛКСМ. Вось мы да самага Новага года адно і рабілі, што засядалі ды штодня прымалі юнакоў і дзяўчат у камсамол: за снежань таго года, лічы, каля тысячы з іх атрымалі новенькія білеты. З аднаго боку ад нас падобнага валу патрабавалі, з другога - за яго ж і крытыкавалі.

Разабрацца ў той сітуацыі і прыехаў уласны карэспандэнт газеты "Чырвоная змена" Анатоль Бароўскі. Газета з'яўлялася органам ЦК ЛКСМБ. Далёка камандзіравацца яму і не трэба было: пераехаў мост праз Сож - і ты ў Навабеліцы, дзе мы і знаходзіліся. (Мо тады і нарадзіўся верш пра Навабеліцу, што ўключаны ў зборнік?)

І неўзабаве ў газеце з'явіўся вялікі «падвальны», як называюць газетчыкі, артыкул *«У новыя ветразі - свежы вецер»*. Крытыкі ў наш адрас у ім, безумоўна, хапала, але яна, крытыка, як цяпер памятаю, была не знішчальнай, не злоснай, а хутчэй наадварот - добразычлівай, пра што, дарэчы, і сведчыла ўжо сама назва публікацыі.

Для мяне ж тая сустрэча з Анатолем стала ў нечым лёсавызначальнай: даведаўшыся, што да прыходу ў райкам я працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», ён і падахвоціў мяне супрацоўнічаць з «Чырвонай зменай». Маўляў, не ўсё ж у вас і дрэнна, ёсць шмат і цікавых пачынаў, і задумак, зрэшты, колькі выдатнай моладзі працуе ў гаспадарках раёна, - хіба ж яны не заслугоўваюць таго, каб пра іх ведала ўся краіна?

Так неўзабаве я стаў актыўным няштатным карэспандэнтам «Чырвонкі»: часцей пісаў па ўласнай ініцыятыве, а калі-нікалі і цёзка - Анатоль -падкідваў ці падказваў тэмы. І газета ахвотна змяшчала мае допісы, а ад гэтага і само выданне карысталася павагай сярод моладзі - было прасцей і з падпіскай: спадзяваліся - хто ведае, можа, і пра іх напішуць. Між іншым, падпіска тады ў вобласці таксама была пад кантролем уласнага карэспандэнта. Згадваю, як ён жартаваў: «Праваліце падпіску на «Чырвонку» - лічыце, што ўсе крытычныя артыкулы будуць толькі з вашага раёна». Мы стараліся не падвесці і яго, і сябе.

Так сталася, што я праз тры гады паехаў вучыцца ў Маскву - у Вышэйшую камсамольскую школу пры ЦК ВЛКСМ. Потым амаль тры гады ў апараце ЦК камсамолу Беларусі, дзе курыраваў маладзёжны друк, радыё і тэлебачанне, - у тым ліку і маю любімую «Чырвоную змену». Газету я выпісваў і атрымліваў нават падчас вучобы ў Маскве. А душа тым часам ірвалася ў журналістыку - і не проста куды-небудзь, а, безумоўна ж, у газету майго юнацтва.

У траўні 1985 года мара збылася: я стаў загадваць у «Чырвонцы» аддзелам вясковай моладзі, і ўжо цяпер я, як раней Анатоль мне, пачаў заказваць матэрыялы яму, - памяняліся, так бы мовіць, ролямі.

Потым праца адказным сакратаром, намеснікам рэдактара; амаль пяць гадоў мы разам былі ў штаце рэдакцыі. Аднойчы нават выпала магчымасць рабіць і сумесны матэрыял з Гомельскай абласной справаздачна-выбарнай камсамольскай канферэнцыі. Даволі вострым атрымаўся тады артыкул, аж у ЦК ЛКСМБ вэрхал усчаўся. Ды такі, што рэдактара Валерыя Плюскова на бюро паклікалі. Дасталося і нам з Анатолем, хоць мы добра разумелі, што так магло напалохаць высокае камсамольскае начальства: вынесці смецце з хаты на ўсю рэспубліку для іх было непажадана.

Працуючы ў «Чырвонцы», я ведаў, што Анатоль Бароўскі не толькі журналіст, а яшчэ і пісьменнік: у 1982 годзе ў калектыўным зборніку «Знаемства» пабачыла свет яго аповесць «Трасніца», а праз пяць гадоў выйшла і самастойная кніга аповесцяў і апавяданняў - «Каліна пад акном». Апроч таго, творы тагачаснага «чырвоназменаўца» (а газета дала пуцёўку ў літаратуру многім беларускім пісьменнікам) друкаваліся ў часопісах «Маладосць» і «Полымя».

У 1990 годзе сышоў з «Чырвонкі» я, а праз нейкі час (адпрацаваўшы ў ёй больш як пятнаццаць гадоў - тры пяцігодкі!) пакінуў яе і Анатоль. Аднак наша сяброўства, замацаванае ў рэдакцыі, настоенае на земляцкіх духоўных каранях, доўжыцца і па сённяшні: я заўсёды радуюся кожнай новай кнізе старэйшага калегі па пяры, а ён, у сваю чаргу, ніколі не праміне павіншаваць з той ці іншай творчай удачай і мяне.

Пэўна, таму і рукапіс гэтай кнігі, перш, чым яна стала такой, Анатоль Бароўскі даслаў у часопіс «Полымя», дзе я працую цяпер.

Для многіх, вядома, з'явіцца поўным адкрыццём, што знаны гомельскі журналіст, празаік, мастак яшчэ, аказваецца, і паэт. Я ведаў, праўда, што Анатоль сябруе з паэтычным словам, зрэдзь чытаў нават асобныя ягоныя вершы, але каб гэта было настолькі сур'ёзным заняткам, не думаў. Хаця, відаць, варта было б, бо ведаю: за што ні браўся Анатоль Бароўскі, ён робіць усё грунтоўна і сур'ёзна, без залішняй мітусні і тым больш пазёрства. «Бліскавіца» ляжала ў яго сталe не адзін дзесятак гадоў і дачакалася свайго часу.

У вершах майго земляка-паэта - і нашы родныя гомельскія краявіды, і людзі гэтага цудоўнага прысожска-прыпяцкага палескага краю, і паэтава трывога за іх лёс, атручаны ядзерным чарнобыльскім пылам, і боль за нашу мову, нашу Бацькаўшчыну.

Напачатку, дабраслаўляючы зборнік вершаў *«З бліскавіцай заручуся»* на сустрэчу-спатканне з чытачамі, я хацеў паразважаць над асобнымі творам і такім чынам як бы скіраваць іх да асноўных тэм кнігі, выказаць сваё захапленне паэзіяй А. Бароўскага, а потым міжволі падумаў: а навошта? Аналізаваць кнігу, якую чытач трымае ў руках, - клопат няўдзячны і марны. Куды кіраваць чытача паэтычнага зборніка, на прачытанне якога ён можа патраціць не на шмат болей часу, чым на чытанне падобнага артыкула? Ды і навошта кіраваць, калі паэзія не паддаецца канававанаму асэнсаванню, а кожны ў вершах знаходзіць нешта сваё, адпаведнае яго настрою і думкам?

Але так ці інакш мы разам з аўтарам гэтай кніжачкі вярнуліся ў сваю маладосць, у сваё юнацтва, у тыя супярэчлівыя, але такія харошыя гады, якія застануцца ў нашай памяці назаўсёды, якія падаравалі нам з сябрам усхваляваныя паэтычныя радкі пра каханне, сяброўства, духоўную ўзнёсласць...

У вершах Анатоля Бароўскага ёсць і настрой, і думкі. І, вядома ж, - бліскавічная сіла паэзіі. І ў гэтым чытачы пераканаюцца самі.

***Анатоль Зэкаў, пісьменнік.***




* * *

...Дарог нялёгкіх ня бывае,
з дарог народзіцца бальшак...
Штогод блукаю я па краі -
пад ветрам я бы той вятрак...
Мяне туман сівы атуліць,
паспаць пакліча цёплы стог...
Прысьніцца ў сене мне матуля,
і мной пакінуты парог...

* * *

...не наракай на адзіноту,
ты ж - ва ўладаньнях цішыні,
і сьлёз ня лі ад мяне ўпотай,
і лёс свой горкі не кляні...
Нам у жыцьці ўсяго хапае -
п'ем слодыч, быццам горкі мёд...
І я - ня той, і ты - не тая,
і час - ня наш, не наш - і год...

* * *

...мне сьняцца касьмічныя шалі,
пад нагамі абрус - Мройны шлях.
Каб жа так і ў жыцьці ўзьляталі,
і нас не ахопліваў кожнага страх...
Імкнемся... куды? Хто адкажа?
Да зораў? Навошта? І для чаго?
Нясу на сабе ўсё жыцьцё я паклажу.
А што ў мяшку? Ды патроху ўсяго...

**Шчасьце зычу**

Я ніколі цябе не паклічу
у той гай, дзе сустрэліся мы...
узялі мы з табою за звычай
ня пісаць ад вясны да зімы.
Вецер сьцюжаю сьцежкі заносіць,
і тваіх мне сьлядоў ня сустрэць,
а прыходзіць ціхмяная восень -
усьцілае сьляды твае медзь.
За гарамі, за лесам, за часам
ты губляешся - стрэну калі?
Але ж марылі некалі: разам
будзем сад мы садзіць на зямлі...
Адзьцьвіло, адгуло наша лета,
і на вуліцы - цётка Зіма.
Ці было у нас сьветлае Гэта?
Пэўна ж, не, як і Тога няма.
Я ніколі цябе не паклічу
у той гай, дзе сустрэліся мы...
Дык чаму ж табе шчасьця я зычу
на пачатку бялюткай зімы?

* * *

...ты нечакана зьнік з вачэй.
як той туман сівы над Сожам,
цябе забыць мне час паможа,
а мо забуду і хутчэй;
а ты казаў мне «пачакай»,
пісаў прызнаньні на паперы, -
я і цяпер табе ня веру...
...а што ж нашэпча мне рака?..

***Анатоль Бароўскі.***

**ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" праводзіць збор подпісаў за наданне адной з вуліц г. Менска імя Янкі Брыля. Выразайце бланк, збірайце подпісы і дасылайце ў Менскі гарвыканкам.**

**Міхаілу Паўлавічу Паўлаву,**
**Старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта**
**220050 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 8**

4 жніўня 2007 года споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, дэпутата ВС БССР, лаўрэата дзяржаўных прэмій, ордэнаносца Янкі Брыля. У сувязі з гэтым просім Вас назваць у гонар класіка беларускай літаратуры адну з вуліц нашай сталіцы і адкрыць памятную дошку на доме па адрасе вул. Дразда, 8, дзе жыў Янка Брыль.

| № | *Прозвішча, імя* | *Адрас пражывання* | *Дата падпісання* | *Подпіс* |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |
| 6. | | | | |
| 7. | | | | |
| 8. | | | | |
| 9. | | | | |
| 10. | | | | |
| 11. | | | | |
| 12. | | | | |
| 13. | | | | |
| 14. | | | | |
| 15. | | | | |



# Як мяняліся нашы межы ў XX ст.

На пачатку XX стагоддзя канчаткова склалася этнаграфічная тэрыторыя Беларусі, якая была зафіксавана паводле перапісу 1897 года. Існавалі і пэўныя геаграфічныя і гістарычныя цэнтры беларускай тэрыторыі, якія былі месцамі дзе гадавалася і дзейнічала нацыянальная эліта. У першую чаргу гэта Вільня і Менск. Таксама можна далучыць да іх Полацк, Віцебск, Магілёў, Смаленск, а таксама некаторыя іншыя гарады, асабліва на Захадзе Беларусі. Гэта Гродна, Беласток, Слонім і Брэст.



1. Вільня. Панарама Старога горада. Фота А. Суткуса, 1981.

Аднак у XX ст. найбольш спрэчак адбылося вакол Вільні, Смаленска і Беластока – гарадоў, якія адыгралі вялікую ролю ў фармаванні беларускага менталітэту ў пераломныя моманты нашай пакручастай гісторыі.

Усе беларускія філолагі, гісторыкі і пісьменнікі канца XIX – пачатку XX ст., асабліва пасля перапісу 1897 г. лічылі Вільню, Смаленск і Беласток беларускімі гарадамі. Гэта было зафіксавана Адамам Кіркорам у "Жывапіснай Расіі" (3 том, 1882 г.) і Яфімам Карскім на адпаведных мапах. Перад пачаткам і ў ходзе Першай сусветнай вайны немцы таксама аднеслі гэтыя гарады да Беларусі і лічылі іх беларускімі.

У XX ст. гістарычны лёс то ўключаў іх у склад беларускіх палітычных утварэнняў (БНР, БССР ці Літ-Бел), то выводзіў іх адтуль. Прычым, калі бальшавікі перадавалі іх у склад іншых краін ці рэспублік, то кіраваліся не жаданнямі іх насельніцтва ці нейкімі рэферэндумамі або плебісцытамі (доўгі час рэферэндумы ў СССР былі проста забароненыя), а надзёнымі палітычнымі выгодамі.

Пасля нямецкай акупацыі Беларусі, асабліва пасля "Брэсцкага міру", у канцы 1918 г. у палітычнай гісторыі Беларусі на першае месца выходзіць Смаленск, дзе апынулася шмат беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку і Янка Купала.

Менавіта тут 30 ліпеня 1918 года Заходняя Камуна – вобласць Расійскай Рэспублікі – абвесціла сябе БССР. Гэта было зроблена на IV Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП (б), якая аб'явіла сябе першым з'ездам КП (б) Беларусі. Межы краіны былі вызначаны ў той жа дзень. На падставе этнічнай тэрыторыі рассялення беларусаў 31 снежня першы з'езд КП(б) абвесціў Сацыялістычную Савецкую Беларускую Рэспубліку ў Смаленску. У пачатку студзеня сябры беларускага ўрада сустрэліся з Янкам Купалам.

2 студзеня 1919 г. месцам выхаду маніфеста аб ССБР абвяшчаецца Менск. 3 студзеня новы ўрад выехаў у Менск. 4 студзеня ў смаленскай газеце "Известия" выйшаў артыкул Максіма Гарэцкага "Ніхай жыве комуністічная Беларусь!".

Аднак ужо 16 студзеня ў Менск паслалі А. Ёфэ з мэтай падзелу ССРБ і ўтварэння Літ-Бела. У якасці буфера ён прапанаваў стварыць Літоўскую і Беларускую рэспублікі. Каб у БССР было менш нацыяналізму, вырашылі адабраць у яе Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні. 23 студзеня Смаленскі губкам абвясціў пра выхад з БССР.




2. Фрагмент нямецкай мапы пачатку XX ст, дзе Вільня і Беласток паказаны як беларускія гарады. Таксама ў Беластоку паказана канцэнтрацыя габрэйскага насельніцтва.

2 – 3 лютага 1919 г. Першы з'езд Саветаў БССР пагадзіўся з выхадам з Рэспублікі трох усходніх губерняў і згадзіўся на аб'яднанне з Літоўскай Савецкай Рэспублікай. 17 – 21 лютага 1919 г. адбыўся першы з'езд саветаў Літвы.

27 лютага 1919 г. утварыўся рабоча-сялянскі ўрад і ўзнікла новая Савецкая Сацыялістычная Літоўска-Беларуская Рэспубліка (Мінская, Віленская, Гродзенская і частка Ковенскай губерняў) са сталіцай у Вільні.

Такім чынам на змену Смаленску і Менску прыходзіць Вільня. Сталіца знаходзіцца там з 27 лютага да 28 красавіка 1919 г. 28 красавіка ўрад Літ-Бела пераехаў у Менск, а Вільню захапілі палякі. Наступны раз Вільня стала савецкай ў верасні 1939 г. а другі раз – у ліпені 1940 г.

У 1920 годзе бальшавікі дораць частку Беларусі Літве і Латвіі, якіх хочуць скарыстаць як саюзнікаў у змаганні з Польшчай. Спачатку 12 ліпеня 1920 г. быў падпісаны дагавор з Літвой, паводле якога Вільня і значная частка былой Віленскай губерні, населянай беларусамі, перадаваліся Літве. З іншых буйных гарадоў літоўцам перадавалася Гродна. У верасні ў Вільні ўжо знаходзіліся літоўскія войскі, але 9 кастрычніка іх выбілі адтуль войскі генерала Жалігоўскага. аднаго з польскіх палкаводцаў, якія налічвалі 52 тысячы салдат. Літоўскі ўрад адступіў у Шаўляй (Шаўлі), а Жалігоўскі абвясціў стварэнне марыянеткавай дзяржавы "Рэспубліка Сярэдняя Літва" і правёў выбары ў мясцовы сойм. У лютым 1922 г. Сярэдняя Літва далучылася да Польшчы.




3. Руская мапа канца XIX ст.

11 жніўня 1920 г. бальшавікі прызнаюць Латвію і перадаюць ёй тры паветы: Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі, заселеныя ў асноўным беларусамі. Узамен яны атрымалі права карыстацца латвійскімі партамі Лібавай і Віндавай і магчымасць выгодна гандляваць з Захадам. У траўні – чэрвені 1921 года Латвія перадала Літве гарады Мажэйкяй і Палангу з ваколіцамі агульнай плошчай 200 кв. км. У адказ Літва перадала Латвіі кавалак тэрыторыі ў ваколіцах Дзвінска агульнай плошчай 299 кв. км. заселенай пераважна беларусамі. Колькасць беларусаў, спрадвеку жыўшых на сваёй зямлі, якія апынуліся ў Латвіі павялічылася.




4. Сталінскі падарунак Літве ў 1939 г.

У 1920 г. аднаўленая БССР складалася толькі з шасці паветаў былой Менскай губерні. Таму кіраўніцтва рэспублікі пачало змагацца за вяртанне забраных гарадоў і тэрыторый. Ужо восенню 1920 г. гэта пытанне ўзняў Сакратар ЦК КПБ Кнорын. У верасні 1922 г. кіраўніцтва БССР паставіла гэта пытанне афіцыйна і абгрунтавала ўзбуйненне інтарэсамі абароны. Вялікая рэспубліка лепей абароніць заходнія межы СССР. Масква пагадзілася, але мясцовыя бюракраты, як правіла небеларусы, былі супраць. Вёска была за ўз'яднанне. Там праходзілі валасныя сходы, дзе за гэта галасавалі.

7 сакавіка 1924 г. БССР атрымала 15 паветаў. Вярнуліся гарады Полацк, Віцебск і Магілёў. Аднак аддалі далёка не ўсе землі, заселеныя беларусамі. Напрыклад, былы Мсціслаўскі павет (уезд) разрэзалі напалам, і такія мсціслаўскія мястэчкі як Хіславічы і Пачынак застаўся ў Расіі.

У жніўні 1926 года беларусы папрасілі ў Маскве вярнуць Гомельскую губерню і тры паўднёвыя паветы Пскоўскай губерні з гарадамі Невель, Веліж і Себеж.

У снежні 1926 г. вярнулі толькі Рэчыцу і Гомель. У канцы 20-х гг. ішлі перамовы аб вяртанні вышэйзгаданых паветаў разам з некаторымі паветамі Смаленскай губерні, нават надрукавалі адпаведную мапу ў "Звяздзе". Аднак неўзабаве пачаліся сталінскія рэпрэсіі, і ўсё спынілася.

У 1937 г. узнікла ідэя перанесці сталіцу БССР з Менска ў Магілёў. У Магілёве ўжо збудавалі новы Дом Урада, але надышоў 1939 год, і сітуацыя кардынальна змянілася. 17 верасня гэтага года пачалося далучэнне да БССР і СССР Заходняй Беларусі, якую ў сакавіку 1921 г. бальшавікі аддалі Польшчы.

Вільня зноў стала беларускай, але не надоўга. Надышло 10 кастрычніка. У Вільні ўжо некалькі тыдняў знаходзілася Чырвоная армія. Пачалі выходзіць беларускія газеты. Па начах арыштоўваюць беларускіх нацыяналістаў, якія нядаўна віталі прыход савецкіх войскаў і марылі пра ўваход у склад Беларусі. Ратуюцца як могуць польскія вайскоўцы і чыноўнікі, а таксама габрэйская буржуазія. І вось раніцай Вільня прачнулася ў новай краіне – Літоўскай рэспубліцы. На вуліцах літоўскія жаўнеры і паліцэйскія. Асабліва ўразіла віленчукоў форма літоўскіх паліцыянтаў і іх мова, на якой ніхто не размаўляў.

У савецкіх газетах надрукавана тлумачэнне Молатава, які прызнае. што ў Вільні і Віленскім краі ў большасці сваёй не жывуць літоўцы, аднак яго перадаюць Літве праз палітычныя выгады для СССР. Кропка. Вільні больш няма на мапах Еўропы. Але з'явіўся Вільнюс.

# Песняры Зямлі Беларускай і Вільня

## (Да 125-х угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа)

У 2007 годзе - 125 год з дня народзін класікаў беларускай нацыянальнай літаратуры, народных пісьменнікаў Беларусі і акадэмікаў НАН РБ Янкі Купалы (1882-1942) і Якуба Коласа (1882-1956), літаратурная дзейнасць якіх цесна звязана з Вільняй.

Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала) нарадзіўся 7 ліпеня 1882 г. у Вязынцы, на Купалле. У гэтую ночку, як мовіць легенда, зацвітае папараць-кветка і той, хто яе знойдзе, не зазнае ў сваім жыцці гора-бяды. Папараць-кветку для свайго народа песняр шукаў і знайшоў яе ў сваёй паэзіі. Не маючы магчымасці грунтоўна вучыцца, ён праходзіў суровую школу жыцця. Маладосць Янкі Купалы праходзіла і ў Вільні, куды ён прыехаў у верасні 1908 г. Жыў ён тады на Звярынцы (раён Вільні) і да 1991 г. там адна з вуліц насіла яго імя (цяпер гэта вуліца Traidenio (Трайдзенз). Праўда жыў ён не на гэтай вуліцы, а на суседняй, цяпер яна называецца вуліца Трэнёты (Treniotos), у доме пад нумарам 5, у кватэры беларускага настаўніка Сымона Караля.

А на працу Янка Купала ў Вільні уладкаваўся ў бібліятэку-чытальню "Веды", якая знаходзілася на Георгіеўскім праспекце, 4 (цяпер праспект Гедзіміна, 2) і уладальнікам якой быў Барыс Даніловіч, актыўны ўдзельнік беларускай справы.

Дапамаглі ўладкавацца на працу Янку Купалу, каб меў сродкі на пражыццё, Аляксандр Уласаў і браты Луцкевічы, якія былі добра знаёмыя з Б. Даніловічам.

Праца ў бібліятэцы была не толькі здабыццем сродкаў для жыцця, але і стварала спрыяльныя ўмовы для самаадукацыі. Апроч гэтага Янка Купала на грамадскіх пачатках працаваў у рэдакцыі газеты "Наша Ніва", дзе шмат пісаў і займаўся перакладам тэксаў рускай, польскай і ўкраінскай моў. Гэта адбывалася аж да снежня 1909 г., пасля чаго ён едзе на вучобу ў Пецярбург. Аб сваёй паездцы ён гаварыў так: "У Вільні я прабыў паўтара года і затым паехаў у Пецярбург "па навуку", гэта значыць, каб паступіць на якія-небудзь агульнаадукацыйныя курсы, якіх не было ў Вільні, - і гэтым хоць трохі папоўніць сваю адукацыю". Знаходзячыся на вучобе ў расейскай паўночнай сталіцы Янка Купала трымае сувязь з Вільняй. У 1912 г. ён пад час прыезду ў Вільню ў беларускай кнігарні пазнаёміўся з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч, якая працавала выхавальніцай дзіцячых прытулкаў і настаўніцай у прыватных школах, дзе вучыла дзяцей беларускай мове.

Вясной 1913 г. Янка Купала скончыў агульнаадукацыйныя Курсы Чарняева ў Пецярбургу і вярнуўся ў Вільню, дзе пачаў працаваць рэдактарам газеты "Наша Ніва", з Змітраком Бядулем, яе сакратаром. Супрацоўнічала з рэдакцыяй і Ул. Фр. Станкевіч, якая на старонках газеты змяшчала свае вершыкі для дзяцей. Актыўны ўдзел яна прымала і ў беларускіх вечарынках, што адбываліся ў В. Ластоўскага, куды прыходзіў і Янка Купала. Сяброўства Янкі Купалы з Уладзіславай Станкевіч перайшло ў каханне, а ў студзені 1916 года яны пабраліся шлюбам і сталі вернымі спадарожнікамі на ўсё жыццё.

Апошнім прытулкам газеты "Наша Нівы" быў дом па Віленскай вуліцы, 29 (цяпер пад № 14). Рэдакцыя знаходзілася тутака на працягу 1914-1915 гг., пакуль не была элвакуявана ў сувязі з прыбліжэннем фронту Першай Сусветнай вайны. У 1914 г. Янка Купала быў рэдактарам газеты, а выдаўцом А. Уласаў, а ў 1915 г. – рэдактарам і выдаўцом "Н. Нівы". У гэты час ён жыў пры рэдакцыі, якая знаходзілася ў панадворку дома, куды трэба было заходзіць праз Браму. Цяпер там ёсць Мэмарыяльная Табліца на літоўскай і беларускай мовах, устаноўленая ў 1994 г. старшынём ТБК сп. Хведарам Нюнька пры фінансаванні ЗБС "Бацькаўшчына". Да гэтага таксама была табліца, але яна не адпавядала гістарычнай праўдзе і па-гэтаму была заменена.

У жніўні 1914 г. у Вільню прыязджаў рускі паэт В. Я. Брусаў, дзе выступаў на літаратурных вечарынах з чытаннем вершаў. Я. Купала пазнаёміўся з ім на вечары ў клубе "Рута" і падарыў яму свае кнігі. На зборніку "Шляхам жыцця" ён напісаў: "Валерыю Якаўлевічу Брусаву на добрую памятку першага спатканя ў Вільні ад вучня і паклонніка Я. Купала. Вільня. 18.08. 1914 г." неўзабаве Брусаў пераклаў на рускаю мову некалькі вершаў Купалы ("На Купалле", "Адцвітанне" і інш.

Праца ў газеце "Наша Ніва" была цяжкай і невыноснай, асабліва ў час І-й сусветнай вайны, калі царызм узмацніў нагляд за друкам. Кожнае слова трапляла пад жорсткую цэнзуру. Са слядамі цэнуры – белымі плямамі – выходзіў амаль кожны нумар "Н.Н.".

Усё ж шмат што зрабіў Я. Купала ў Вільні, працуючы ў рэдакцыі газеты "Н. Ніва", у тым ліку пад яго рэдакцыяй у 1913 г. выходзіць зборнік вершаў М. Багдановіча "Вянок", а ў 1914 г. ён рэдагаваў кнігу маладой паэтэсы К. Буйло "Курганная кветка". Жорсткія ўмовы працы і набліжэння фронту прымусілі Я. Купалу пакінуць Вільню.

Трэба зазначыць, што ў 1913 г. у Вільні адбылася прэм'ера славутай купалаўскай (студзень) – "Паўлінкі" з удзелам аўтара. Гэта адбылося ў зале гімнастычнага таварыства "Сокал" на Віленскай, 10. цяпер гэта "Дом настаўніка" (Віленская, 39). Дарэчы, роль "Паўлінкі" у п'есе выконвала прыгажуня з Будслава Паўліна Вікенцеўна Мядзёлка.


*Дом, у якім знаходзілася бібліятэка Б. Даніловіча, дзе Я. Купала працаваў у 1908 г.*

З Вільняй меў сувязі і Якуб Колас, які жыў тут у 1907-1908 гг. і непасрэдна працаваў у рэдакцыі газеты "Наша Ніва". Але сувязі з Вільняй гэтым не абмяжоўваюцца, бо яго звязвала і важная падзея ў асабістым жыцці. У 1912-1914 гг. Якуб Колас жыў на Палессі, настаўнічаў у Пінску. Там настаўніцай у Пінскай чагуначнай школе працавала Марыя Каменская, дзе і пазнаёміўся Якуб Колас, а ў чэрвені 1913 г. яны пабраліся шлюбам. Родам Марыя была з прыгарада Вільні (цяпер Павільніс), а тады Віленская Чыгуначная калонія, дзе Каменскія мелі свой дом. У доме Каменскіх Якуб Колас і яго жонка жылі падчас летніх канікулаў у 1913-1915 гг. Адгэтуль паэт хадзіў пехатой у Вільню ў рэдакцыю "Нашай Нівы", дамаўляўся аб выданні зборніка прозы "Родныя з'явы", сустракаўся з Я. Купалам, які таксама наведваў яго ў Чыгуначнай калоніі (Павільніс). Усім вядома і яго паэма "Новая зямля", дзе ў раздзеле "Дзядзька ў Вільні" пісьменнік апісвае гэтае места. Усё сведчыць, што Вільня для Якуба Коласа займала важнае мейсца ў яго творчасці і жыцці.

Але вернемся ў Павільніс. Пасля таго, як Якуб Колас з жонкай асталяваўся ў Менску, то дом у калоніі дастаўся брату жонкі Марыі Івану Каменскаму, які з пашаны да свайго швагра шчыра падтрымаў ідэю стварэння тут дома-музея Якуба Коласа, што было замацавана пастановаю СМ Літоўскай ССР у жніўні 1960 г. Ён перадаў шэраг мемарыяльных рэчаў для музейнай экспазіцыі, а гарадскія ўлады меліся выканаць рамонтна-рэстаўрацыйныя работы з тым, каб музей адчыніць да 80-годдзя з дня народзін паэта. Як бачым, прыйшло і 125-годдзе паэта, але музея няма і, напэўна, не будзе. Атрымалася так, што ў мемарыяльным доме інспекцыя па ахове драўніны выявіла грыбок і будынак адразу разабралі, а новы не пабудавалі. Праўда, у бібліятэцы Павільніса быў абсталяваны пакой-музей Якуба Коласа, але пазней гэтыя экспанаты былі перададзеныя літмузею імя Пушкіна, што ў Маркучай. Ад гэтай сядзібы засталася толькі невялікая дзялянка, бо большаю частку яе забралі новыя "гаспадары", якія ў цяперашні час пабудавалі свае дамы.

Гэтая застаўшыяся дзялянка знаходзіцца ў Павільнісе на вуліцы, якая носіць імя Якуба Коласа, што недалёка ад касцёла. У прынцыпе яшчэ можна там пабудаваць невялікі дом-музей. Але патрэбны фінансы і высілкі. Такая вот сумная гісторыя ў справе ўшанавання памяці Якуба Коласа ў Вільні (Павільніс).

Што датычыцца ўшанавання памяці Янкі Купалы, то апроч Мемарыяльнай дошкі ў гонар яго, што знаходзіцца на вул. Віленскай, 14, яго імем названа вуліца ў Новай Вілейцы.

Гэтую вуліцу ў Новай Вілейцы (прыгарад Вільні) улады вымушаны былі назваць імем Янкі Купалы пасля таго, як ТБМ Віленшчыны выступіла ў абарону Янкі Купалы, калі ў 1991 г. "саюдзісты" перайменавалі вуліцу Янкі Купалы на Звярынцы ў Трайдзяне. Гэтым яны "кампенсавалі" нібы нанесеную беларусам маральную страту. У барацьбе за Янку Купалу актыўны ўдзел прымалі гісторык Уладас Бікулічус (літовец) і сябры ТБМ Уладзімір Максіменка, Урлік, Кучынскі і аўтар гэтага артыкула. Каб завастрыць на гэтым увагу мы звярталіся ў розныя інстанцыі Літвы і Беларусі (Літоўскае тэлебачанне Вільнюскі гарадскі Савет, ВС Літвы, у Прэзідыюм ВС БССР і г.д.). Як бачым, пасля ўсяго гэтага ўсётакі дабіліся некаторай уступкі, г.зн. літоўскія ўлады "кампенсавалі" нам страту назовам вуліца Янкі Купалы ў Н. Вілейцы.

Але былі і такія "патрыёты" – беларусы Вільні, што маўчалі, як вады ў рот набраўшы, стараючыся дагадзіць "саюдзістым", якія на хвалі нацыянальнага адраджэння выступілі і супраць Я. Купалы, абвінаваціўшы яго ў "увасхваленні Сталіна".

Хай усім гэтым "барацьбітам" будзе сорамна, што яны у цяжкаю хвіліну не імкнуліся абараніць Я. Купалу, а, наадварот, як маглі ахайвалі сяброў ТБМ. Час паказаў – хто ёсць хто. Тое ж самае адбываецца і цяпер, калі ідзе барацьба за ўшанаванне памяці Ф. Багушэвіча. Няхай усё будзе на іх сумленні і толькі, але наша справа не прапала.

Янка Купала і Якуб Колас неразрыўны з Вільняй былі, ёсць і будуць, а Вільня з імі.

Пад знакам 125-годдзя з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа у Вянок песнярам Зямлі Беларускай я ўплятаю і свой вершык:

**Мая мова**

Ідзі, святая наша мова
Да вёсак, гарадоў і хат.
Няхай пачуе гэты слова
Мой добры сябра
і родны брат.

Нясі святло, нясі каганец
Свой цяжкі крыж
і свой ружанец
Сваім сынам у Белу Русь
Смялей ідзі, смялей, не трусь.

Цябе чакаюць нашы дзеткі
У роднай вёсцы, роднай хатцы.
Ты расквітай, як тыя кветкі
На радасць усім,
як роднай матцы.

І знікне змрок, і згіне хлам
Пачуўшы роднае тут слова.
І будзе свет і тут, і там,
Квітней, гучы мая ты Мова!

***Юры Гіль,***
***старшыня ТБМ Віленскага Краю.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 8. 2007 г. у 10.00. Замова № 1807.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1680 руб., 3 мес.- 5040 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.